# Блакітныя вочы

У Вікторыі Кальварыйскай блакітныя вочы. Такіх чыстых і такіх блакітна-блакітных вачэй, як у Вікторыі, я ні ў кога не бачыў. Запамінальныя вочы: хто бачыў, той не забудзе. Пра яе бялюткую скуру на твары і пяшчотна-рудыя валасы мала хто згадвае, як і пра яе шырокую сялянскую паставу не ўспамінаюць. Пра Блакітныя вочы кажуць усе. Блакітнавокая Вікторыя Кальварыйская дапамагае бяздзетным жанчынам нарадзіць першае дзіця. Яна з'яўляецца да жанчыны ў сне, гаворыць з ёю, спачувае, перапытвае — ці сапраўды той так важна займець сваё дзіця, а потым кажа, што і як трэба зрабіць, каб дзіця нарадзілася. Акром парадаў, звязаных з прыродаю чалавечых целаў, Вікторыя сарамліва просіць ней-

кую драбязу для сябе. Зазвычай яна кажа пра дзве белыя лілеі, якія трэба занесці на Кальварыйскія могілкі і пакласці на магілу Вікторыі. Усе, каму яна абяцала дапамагчы, атрымалі дапамогу. Хто нараджаў дзіця і забываўся пра Блакітныя вочы ды не выконваў просьбы, не дзячыў Вікторыі, таго яна жорстка карала. Зноў жа з'яўлялася ў сне, зноў папярэджвала пра кару і потым на яве ламала жанчыне руку ці нагу. Апошнім часам Вікторыя Кальварыйская мала каго нявечыць, бо імя ейнае і справы, дзякуючы жанчынам, што з яе дапамогаю здолелі нарадзіць, набылі вядомасць як у Мінску, так і ўва ўсёй Беларусі. Таму і белыя лілеі ляжаць на кальварыйскай магіле Вікторыі-дапаможніцы цэлы год. Першай, да каго дапаможніца з'явілася ў сне, была спявачка з касцёльнага хора — Ядвіся. Яна добра ведала старую бабу Вікцю. Над труною Вікторыі яна

ціха папрасіла: «А цётачка Вы наша, а Вікцечка, а калі Вы трапіце на нябёсы блакітныя, а калі ўбачыце там каго, ды папрасіце дзіця для мяне, бо без дзіцяці я чэзну ды марнею і змарнею ўшчэнт...» Праз некалькі дзён Ядвіся пабачыла ў сне Блакітныя вочы цёткі Вікторыі, якая паабяцала ёй дапамагчы. Неўзабаве харыстка зацяжарыла, а пазней лёгка і без усялякіх праблемаў нарадзіла дачушку Антосю. У Ядвісі з Антосяй усё ішло найлепшым чынам, ажно пакуль зноўку ў сне не з'явіліся Блакітныя вочы. Вікторыя была злая, сказала, што пакрыўдзілася, бо не атрымала дзвюх лілеяў, а таму Ядвіся раніцаю зломіць два пальцы на правай руцэ. Ранкам жанчына паслізнулася на ганку хлебнай крамы, упала і знявечыла акурат два пальцы на правай руцэ. Пасля бальніцы яна паехала на могілкі, купіла па дарозе дзве лілеі і паклала Вікторыі пад помнік. Так пача-

лася дапамога бяздзетным жанчынам Вікторыі Кальварыйскай. Дапамагала яна шмат. Удзячныя людзі назбіралі грошай і паставілі на могілках новы і вялікі помнік сваёй дапаможніцы. Цікаўныя даследчыкі вывучылі і апісалі жыццё Вікторыі Кальварыйскай. Як высветлілася, у жыцці ейным было самае сапраўднае дзіва... Бог уратаваў Вікторыю і яе сына. Яна тады працавала на заводзе разам са старэйшым з яе трох сыноў. У іх цэху вырабляліся карпусы для тэлевізараў. На заводзе абвяшчалі працоўныя суботы і нядзелі. Адмовіцца ад працы ў выходныя было немагчыма, але можна было падмяніцца — памяняцца працоўнымі днямі з кім іншым. Вікторыя падмянілася на суботу, каб разам з сынам паехаць з Мінска ў Рубяжэвічы. Тамака сын граў на касцёльным аргане. Ксёндз бачыў у ім свайго новага арганіста, бо стары зрабіўся зусім нямоглы.

Хлопец граў на аргане, маці малілася, а ў гэты час на іх заводзе адбыўся страшэнны выбух. У сутарэннях пад цэхам, дзе выраблялі карпусы для тэлевізараў, пачаўся пажар. Полымя ахапіла бочкі з лакам. Яны выбухнулі так, што ўзнялі ўгору ўсе перакрыцці і дах. А потым усё разам з дахам абрынулася ў сутарэнні. Цэх разам з рабочымі ператварыўся ў гурбу друзу. У адзін момант загінула блізу трохсот чалавек. Вікторыю разам з сынам пільныя следчыя шматкроць выклікалі на допыты. Чаму з'ехалі? Чаму памяняліся з гэтымі людзьмі зменаю, а не з якімі іншымі? Можа, вы нешта ад некага пачулі, і таму вырашылі не хадзіць у тую суботу на завод? Пасля выбуху і ўратавання Вікторыя займела непахіснае перакананне, што яе і ейнае дзіця выбраў і ўратаваў Бог. Нашто? Каб яна ўсім пра выратаванне распавяла і да апошняга ўздыху свайго дзячыла Богу.

Менавіта Вікторыя дамаглася, каб у Мінску зноў адчынілі касцёл, які быў зачынены адразу пасля Другой Сусветнай вайны. Дзякуючы Вікторыі на Кальварыйскіх могілках быў наведзены парадак, адчыніўся касцёл і зайграў арган. Непадалёк ад таго касцёла і пахавалі Вікторыю. Яе аплакалі і паціху сталі забываць, але яна пачала з'яўляцца ў снах да бяздзетных жанчын, пачала іх суцяшаць і дапамагаць. Жанчыны, што бачылі Вікторыю Кальварыйскую ў снах, казалі мне: у нечым яна нагадвае анёла. У яе няма анёльскіх крылаў, але Блакітныя вочы дакладна маюць анёльскі колер.

## Выгнанне з ложкаў

Муж прыходзіць дамоў і заспявае жонку з каханкам. Муж б'е жонку і выганяе каханка. Той прыходзіць дамоў і заспявае жонку з каханкай. Б'е жонку і вы-

ганяе каханку. Тая прыходзіць дамоў і заспявае мужа з каханкам. Б'е мужа і выганяе каханка. Той вяртаецца да сваёй, нядаўна пабітай за здраду, жонкі.

## Чырвонае сэрца

Мужчына яшчэ заставаўся ў жанчыне, але абое ўжо знерухомелі. Мужчына ляжаў, прытуліўшыся да жанчыны, і слухаў сваё сэрца. Яно грукатала, ды так моцна, што здавалася вось-вось выскачыць з грудзей. Сэрца і вырвалася з грудзей. Чырвонае сэрца выскачыла з мужчынскіх грудзей, узнялося пад столь і ўпала на жаночую шчаку. Жанчына павярнула галаў, шырока раскрыла рот і праглынула Чырвонае сэрца. Мужчына так прыціснуўся да жанчыны і так у ёй торгнуўся, што Чырвонае сэрца выскачыла ў жанчыны з рота, узнялося пад столь ды апусцілася ў грудзі мужчыны,

дакладна на сваё заўсёднае месца. Стомленыя каханкі заснулі глыбокім сном.

## Чорная нітка

Доктар Зуб вырашыў павесяліцца з легкадумнай дзявуляй. Уночы ён паехаў да футбольнага стадыёна, бо тамака, пад казіно, вышнуроўваецца шмат дзевак на любы густ. Зуб выбраў сабе пульхнацелую бялянку, адвёз на загадзя нанятую кватэру і нацешыўся напоўніцу. Усё было б добра, каб доктар Зуб заплаціў бялянaчцы за інтым-паслугі. Зуб пасквапнічаў, а бялянка азлілася і паабяцала забраць у доктара мужчынскую моц. Доктар, вядома, у бабскую пагрозу не паверыў, але праз тры дні адчуў і зразумеў, што ягоны чэлес болей не стаіць. Давялося доктару Зубу зноўку ехаць уночы пад казіно і шукаць пульхнацелую бялянaчку. Салодкімі словамі і вялікімі

грашыма доктар залагодзіў легкадумную дзявулю. Тая прызналася, што выцягнула з мужчынскіх майткаў Чорную нітку, якую завязала на тры вузлы і закапала пад брамаю на Паўночных могілках. Раніцай Зуб звазіў прастытутку на могілкі, дзе яны разам выкапалі і спалілі Чорную нітку. Праз тры ночы, як і паабяцала бялячачка, чэлес доктара зноў устаў. Можаш не верыць у забабоны ды бабскае чарадзейства, але, калі ты паабяцаў жанчыне заплаціць за сэкс-паслугі, плаці і спі спакойна.

## Кіпень і агонь

Ёсць у Мінску на вуліцы Якуба Коласа дом, у якім жывуць маці, бацька і дарослы сын. Дом вялікі, ды апрача траіх чалавек і дзесяцігаловай зграі брахлівых сабак там ніхто не жыве. Учора ўночы сын закіпяціў вады, крадком падышоў да

бацькавага ложка і выліў кіпень на старога бацьку. Калі той прахапіўся, п'яны сын нахіліўся да бацькі твар у твар і прасіпеў: «Здохнеш, а я тады ўсе твае карціны спалю!» Жудасную казку пра агонь і кіпень мне распавёў вучань старога мастака, чые карціны родны сын паабяцаў спаліць.

## Голас крыві бацькі свайго

Было ў бацькі тры сыны. Усе дужыя, гожыя і працавітыя. Сыны любілі бацьку і моцна затужылі, калі той памёр. Маці глядзела-глядзела на слёзы сыноў, дый прызналася ім, што толькі адзін з іх пахаваў свайго сапраўднага бацьку. Мужчыны паспрабавалі дапытацца ў маці, хто з іх бацькаў сын, а хто нарадзіўся ад іншага чалавека. Маці нічога не сказала. Тады мужчыны пайшлі да свайго дзядзькі, які працаваў у судзе. Яны спадзяваліся,

што суддзя дапаможа знайсці праўду. Той сказаў, што сыны павінны раскапаць бацькаву магілу, дастаць з труны нябожчыка і біць яго палкамі па галаве, ажно пакуль не скажа праўды. Двое сыноў — старэйшы і малодшы — узялі рыдлёўкі і пайшлі на могілкі, а сярэдні сын схапіў стрэльбу, пераняў іх на паўдарозе і сказаў, што не дазволіць здзеквацца з бацькі. З рыдлёўкамі і стрэльбаю мужчыны вярнуліся да суддзі. Той сказаў, што праўдзівы сын — сярэдні брат, бо ён пачуў голас крыві бацькі свайго і не дазволіў здзекавацца з нябожчыка.

## Лузер і Флудзер

«Упс?» — гукнуў Флудзер Лузеру. «Паехалі! Паімчалі! Паляцелі!» — адгукнуўся Лузер Флудзеру. «Важнай праблемаю сУчаснасці з'яўляецца змена культурнай парадыгмы, непазбежнасць якой стала

відавочнай у апошнія дзесяцігоддзі дваццатага стагоддзя і першыя гады трэцяга тысячагоддзя!» — заляпіў Лузер. «Клас! Джаз! Час!» — ухваліў Флудзер Лузераву залепу. «Ужо ў найбліжэйшы час варта чакаць, што замест постмадэрнісцкага героя з'явіцца Новы герой (Новы Зігфрыд! Новая Фрыда! Новае Зігфрыдо!), здольны вывесці фрыгіднага чытачачалавека-сУчасніка з сённяшніх прыцемкаў духоўнасці на светлы прастор здзяйсняльнага дзеяння!» — прарочыў Лузер. «Геніяльна! Гендарна! Грандыёзна!» — зацаніў Флудзер Лузерава прароцтва. «Дзякі! Да новых сустрэч у нетрах эфіру!» — напісаў Лузер Флудзеру і вымкнуў айфон.

## Пяць ложкаў з аргазмам

Няшчасце не мае асобнай меркі для ўсіх людзей на свеце, але кожны чалавек

мае сваю асобную мерку для няшчасця і асобны погляд на само няшчасце... Як той казаў. Адзін з нас мерае няшчасце лыжкамі заціркі, другі мерае яго бочкамі лайна і цыстэрнамі нафты, трэці — гектарамі зямлі і кіламетрамі ўзарванай чыгункі. Добра, калі тваё няшчасце змяшчаецца ў напарстак, і кепска, калі глабальны фінансавы крызіс ты ўспрымаеш за асабістую драму... Леапольд перажываў няшчасці лёгка, бо ягоная светлая галава была заўжды занятая пошукамі шчасця. Сваё шчасце ён мераў не кіламетрамі, не бочкамі і лыжкамі, а ложкамі. Ложкаў было пяць: дома, на працы, у студыі, на лецішчы і ў Вільні. Усе пяць ложкаў Леапольд любіў і трымаў у чысціні. Ну, скажы ты, якая жанчына пагодзіцца легчы ў неахайны ложак?! Мо якая дурніца і пагадзілася б легчы на брудную прасціну, мо нейкая прасталытка і без прасціны, а стоячы на пры-

ступках у запляваным пад'ездзе пагадзілася б перапіхнуцца з Леапольдам. Дык жа ён з такімі просталядзямі справы не вёў. Хіба ж гэта шчасце — маркітавацца ў чужым брудзе і ў чужынскай гразі? Свой свежазапраўлены ложак са сваёю чыстацелай жанчынаю — такім бачыў сваё шчасце Леапольд. І бачыў яго амаль кожны божы дзень. Але шчасце зусім і не шчасце, калі табе добра, а некаму кепска. А калі кепска тваёй чыстацелай жанчыне, гэта ўжо амаль няшчасце. Таму Леапольд рабіў усё патрэбнае і заўжды кантраляваў, каб ягоная жанчына атрымлівала аргазм. Яна атрымлівала аргазм і выгуквала даўжэзнае «а». Жанчына выгуквала «а», і Леапольд следам выгукваў даўжэзна-даўжэзнае «а», і, такім чынам, ён рабіўся шчаслівейшым за ўсіх шчаслівых... І правільна той казаў, што шчасце не мае асобнай меркі для ўсіх людзей на свеце, але кожны чалавек мае сваю асоб-

ную мерку для шчасця і свой асобны погляд на самое шчасце... У ложку!

## Права дрэва на шпакоўню

Аркадзь, мянушка Замок, Вікенцій, мянушка Ціхі, і Алесь, мянушка Масон, п'юць у летняй кавярні гарэлку. Цёплы вечар спрыяе таму, каб піць гарэлку і закусваць яе салёнай сёмгаю. Мужчыны дапіваюць ужо другую пляшку, калі Алесь устае і кажа, што пойдзе пасцаць. «Масон сваю чорную папку з даносамі забыў!» — заўважае Аркадзь і паказвае на тонкую скураную папку, што ляжыць на чырвоным жалезным крэсле. «Давай насцым у папку з даносамі. Хай Масон ведае, што пісаць даносы — хуёва!» — прапаноўвае Вікенцій. Тым часам панад горадам бязгучна пралятае празрысты анёл. «Супакойся, Ціхі. Калі чалавеку падабаецца пісаць даносы і змагацца

за правы дрэваў на шпакоўні, хай сабе піша!» — кажа Аркадзь і разлівае з трэцяй пляшкі гарэлку па стограмовых чарках. «Раней Масон папкі ніколі не пакідаў. Праўда, Замок?» — пытаецца Вікенцій. «Раней ён змагаўся за новы рэжым і найноўшы парадак, а цяперака ён адстойвае правы дрэваў і правы птушак...» Алесь, вярнуўшыся з прыбіральні, пачынае выціраць рукі папяровымі сурвэткамі. «Мы тут збіраліся насцаць у тваю чортаву папку, ды не паспелі!» — Вікенцій выскаляецца на Алеся. «Выврадкі!» — шчэрыцца той і ўздымае поўную, як вока, чарку.

## Пагоня

Дзёрзкі Гор вырашыў уступіць у таемнае таварыства, каб даведацца ягоныя сакрэты і пра ўсё расказаць народу. Гор прайшоў патрэбныя іспыты, бліснуў

розумам і заслужыў выдатную адзнаку за паводзіны. Сваю задуму ён захоўваў у глыбокай таямніцы, і таму быў дапушчаны да пасвячэння, якое падалося яму складаным і жудасным абрадам. Спачатку цырымонія праходзіла адкрыта — кандыдаты пакланяліся багам, прыносілі ахвяры і ладзілі шэсце з паходнямі, выконвалі сакральныя пантамімы і танцы. Пасля гэтага пачыналася патаемная частка абраду. Тыя, каго пасвячалі, сабраліся ў цёмнай залі. Раптам з жудасным рыпеннем адчыніліся дзверы. Юнакі зрабілі крок наперад. Загула бура, заракатаў гром, пад нагамі заварушыліся змеі. Пошугі маланак высвечвалі ў цемры акрываўленыя трупы. Потым запала гнятлівая ціша. Гор убачыў Тартар і бездань, з якой сыходзіў смуродлівы пах паленай серы. Тут ён і пачуў размову рабочых, якія ладзілі гэтыя жудасці і дзівосы. Адзін казаў другому: «Як толькі

я стаў дэманстраваць змеяў, нейкі небарака не вытрымаў і паваліўся». Гутарка ішла пра неафіта, які ад страху страціў прытомнасць. «Падман! — скеміў Гор. — Што ж са мною будзе далей?» Але ён ужо стаяў перад шасцю жрацамі, якія размясціліся каля стала з чарапамі. «Вучань! — сказаў адзін з іх. — Паглядзі на гэтыя косткі. Тут чарапы тых, хто парушыў таямніцу. Хопіць у цябе мужнасці, каб прайсці апошняе выпрабаванне?» — «Хопіць!» — «Тады пакляніся барадою Дэміурга, што хутчэй пазбавішся жыцця, чым раскрыеш адну з нашых таямніцаў». — «Клянуся!» — усклікнуў Гор. Яшчэ ён прайшоў праз поле смерці, сустрэўся з цыклопам і наведаў Цэрбера, які вартаваў бездань. Гор зноўку пераканаўся, што жрацы ўмелі ствараць ілюзіі. «Але, — разважаў ён, — як усе гэтыя іхнія намаганні могуць навучыць мяне дабрадзейнасці?» Нарэшце Гор стаяў перад найвышэй-

шым жрацом. Той сказаў: «Ад імя магутнай багіні Цэцэры надаю табе годнасць жраца! Як і твае браты, ніколі не здраджвай дабрадзейнасці. Ніколі не забывай і заўсёды шануй багоў ды іх служак». — «Вялікі служка Цэцэры! — звярнуўся Гор да жраца. — Прамаўляючы каля ног тваіх словы ўдзячнасці, ці магу я спытаць, а ў чым таямніца гэтых містэрыяў?» — «Мы імкнемся да авалодвання таямніцамі прыроды! — адказаў жрэц. — У нас існуе два віды навучання: адзін — для цёмных натоўпаў, другі — для дасведчаных мудрацоў. Першы — гэта прыдуманыя людзьмі і прыпісаныя багам міфы. Другі ўтрымлівае ў сабе касмагонію, астраномію і геаметрыю, якія даюць нам разуменне з'яваў прыроды і якія народ лічыць звышрэальнымі. Захоўваючы ў таямніцы гэтае вучэнне, мы ўзвышаемся па-над натоўпам». — «Мяркую, сябрам народу не стане той, хто схавае спасцігнутую

ісціну! — заўважыў Гор. — Калі такая ісціна робіць людзей лепшымі, яны павінны ведаць яе». — «Усе натоўпы неразумныя і легкаверныя», — цярпліва запярэчыў вярхоўны жрэц. «Атрымліваецца, вы карыстаецеся чалавечай недасведчанасцю. Няўжо вы не баіцёся, што таемнае зробіцца відавочным?» — «Змоўкні! — усклікнуў раз'юшаны жрэц. — За выкрываннем таямніцаў прыйдзе немінучае пакаранне!» Гор уцёк з храму. Услед за ім пайшлі дасведчаныя. Пагоня выправілася забіць клятвапарушальніка і забіла.

## Як чорт падміргвае

Дамінік пагарэў на хцівасці. Высокі, самавіты, выкшталцоны малады мужчына вырашыў парукацца з чортам. З-за чаго? А з-за прыступкі на службовай лесвіцы. З ніжэйшага сярэдняга звяна Дамініку карцела пералезці ў цэнтральнае

сярэдняе звяно. Так яму праглася службовага павышэння, што сам чорт угледзеў Дамінікаву прагу кар'еры. Падкаціўся чорт да амбітнага Дамініка і прапанаваў хуткае павышэнне. Мужчына, вядома, запытаўся пра кошт паслугі. Чорт падміргнуў Дамініку і сказаў, што душу забіраць не будзе, бо не час, а пакіне сабе адно маленечкае права — падміргваць людзям Дамінікавым правым вокам. Так чалавек з чортам і дамовіліся. Дамінік хутка перапоўз на цэнтральную прыступку сярэдняга звяна, як і дакляраваў чорт. Дамініка прызначылі кіраваць палітычна-інфармацыйным сайтам і запрасілі на сустрэчу з прэзідэнтам. Дамінік падрыхтаваў і зацвердзіў пытанні. Дамінік апрануў белую кашулю пад новы чорны гарнітур ды выправіўся на прэс-канферэнцыю. Чорт, вядома, не спаў у шапку. Калі Дамінік устаў, каб задаць пытанне, галава ягоная торгнула-

ся, а правае вока падміргнула прэзідэнту. Дамінік яшчэ тры разы паспеў высока ўскінуць падбароддзе і крыва падміргнуць першай асобе, пакуль яго вывалаквалі з залі моцнарукія ахоўнікі. За дурнаватую выхадку Дамініка выгналі з працы. Дамінік запіў. Ён бы і спіўся зусім, каб не чорт. Але, кажуць, нават чорт сваіх памагатых у бядзе не пакідае. Чорт падкаціўся раніцай да неапахмеленага Дамініка і вытаргаваў у яго душу. За што? А за шклянку гарэлкі. Пасля той шклянкі бядоты і гароты Дамініка скончыліся раз і назаўжды, бо ён выпіў усё да кроплі і перадаў чорту душу і цела.

## Ісціна спадарыні Багушэвіч

«Што ёсць ісціна?» — спытала спадарыня Пілатовіч у спадарыні Багушэвіч. «Чэлес! Калі чэлес стаіць! Ісціна ў паўставанні і стаянні мужчынскага чэлеса!» — адказа-

ла спадарыня Багушэвіч. «Хіба паўставанне мужчынскага чэлеса можна назваць ісцінаю?» — засумнявалася Пілатовіч. «Вядома, калі ты — жанчына. У мужчын на гэты конт ёсць іншая версія, але нам, жанчынам, яна малацікавая. Павер!»

## Вера, абізян, п'яніца і чалавечыя рогі

У Веры быў нікчэмны муж. Бедны, дробны, зайздрослівы, аблавухі, зласлівы, брыдкатвары, пустаслоўны, крываногі, баязлівы і спрэс валасаты. Не чалавек, а натуральны абізян! Сівыя валасы раслі ў абізяна нават на вушах і на носе. Вера свайго сівавухага абізяна нават палюблівала, але яна палюблівала і розных іншых. Вера зазвычай палюблівала людзей высокіх і заможных. Але галодных і брудных Вера таксама палюблівала. Яна давала ўсім, хто прасіў, бо мела

свой адметны погляд на хутказменлівае ды хуткаплыннае жыццё. «Сягоння адмовіш, сягоння не дасі, сягоння не адсмокчаш, а заўтра ніхто і не папросіць!» — шаптала Вера сяброўкам. Вера давала, смактала, падмахвала, падстаўлялася, ракам станавілася. Вера жыла! Але была ў Веры адна бяда. У Веры не раслі рогі. Там, дзе ў звычайных жанчын растуць рогі, у Веры былі ямкі, бо яе сівалобы абізян нікому не падабаўся. Абізян не здраджваў Веры не таму, што не хацеў, а таму, што не мог. Вера таксама не магла яму ў гэткай далікатнай справе дапамагчы. Спрабавала. Але нават прасталыткі не пагаджаліся даць абізяну. Гідзіліся! Адна дарожная блядзюга была пагадзілася, спакусіўшыся на патроеныя грошы, паспрабавала была падставіцца, але, пабачыўшы распранутага сівацелага, бяклакласкурага, крывахуяга абізяна, рыганула і ўцякла. Бязрогая Вера так сперажывала-

ся і спакутвалася, што кінула сіваносага абізяна і выйшла замуж за простага, звычайнага, непрыкметнага п'яніцу. Праз тры дні і тры ночы ў Веры выраслі акуратныя чалавечыя рогі.

## Снежная баба і марозны дзень

Хлопец Бай зляпіў са снежных шароў сапраўдны замак з вежамі ды байніцамі. Бай пабудаваў у парку беласценны замак, каб дзятва гуляла там у снежкі. Калі Бай скончыў працу і любаваўся плёнам рук сваіх, да яго пад'ехала Снежная баба. Яна лісліва пахваліла Бая і прапанавала ў якасці ўзнагароды пакатацца на ейных санях. Толькі хлопец узлез на сані, толькі прысеў на мяккую падушку, як холад спаралізаваў ягонае цела. Магутны конь панёс сані з зямлі ды ў неба. Белы конь, скачучы па хмарах, прынёс сані ў далёка-далёкае ледзяное царства Снежнай

бабы. Тая перасадзіла Бая на ледзяное крэсла і загадала яму складаць са снегу слова «бездань». Рукі ў Бая ледзь варушыліся. Чырвонымі, нягнуткімі, абмерзлымі пальцамі хлопец спрабаваў зляпіць са снегу літары, каб выкласці з іх магічнае слова. Мароз у царстве Снежнай бабы быў моцна-моцны, літары рассыпаліся, слова не атрымлівалася. Але Бай не пакідаў надзеі скласці слова, бо Снежная баба паабяцала за гэта — вызваленне. Пэўна, хлопец замёрз бы цалкам у марозным царстве вечнай зімы, каб не ягоная каханка Анжэла. Яна прачула пра бяду, што здарылася з яе любым, і выправілася ратаваць свайго Бая. Праўдамі і няпраўдамі Анжэла трапіла ў царства Снежнай бабы, знайшла каханка і нацягнула на яго цёплыя кальсоны. «Ты прынесла мне цёплыя споднікі!» — узрадаваўся Бай. «Я прынесла табе цёплыя споднікі!» — узрадавалася Анжэла ад таго, што

яе любы ўзрадаваўся. Хлопец станцаваў рок-н-рол разам са сваёй выратавальніцай. Каб хутчэй вярнуцца дамоў, каханкам давялося скрасці ў Снежнай бабы яе белага каня. Конь, скачучы па аблоках, прывёз каханкаў у парк, дзе ў снежным замку дзеці гулялі ў снежкі. Неўзабаве Бай і Анжэла згулялі вяселле, пасля якога пражылі разам сто гадоў і адзін сонечны, кароткі, марозны дзень.

## Як і Тык

Яку — якава, а Тыку — тыкава. Хіба ёсць сумневы? Ёсць! Бо Як лічыць найгалоўнейшым у рэчы якасць, а Тык у рэчы любіць функцыянальнасць. Як яскравы, а Тык тэхнічны. Сыдуцца Як з Тыкам і спрачаюцца. Спрэчка зазвычай пераходзіць у сварку, а тая часам і бойкай заканчваецца. Як якасна б’е Тыку ў нюхаўку, а той наносіць тэхнічны ўдар Яку

ў вуха. Сілы ў Яка і Тыка аднолькавыя, таму бойкі заканчваюцца хутка. Гэта першая сутычка Яка з Тыкам была доўгай, а скончылася ўсё адно нічым, бо Тыку — тыкава, а Яку — якава. Усе ведаюць, што кожнаму сваё. Толькі Як з Тыкам ніяк не прымуць простай ісціны: спрачаюцца, сварацца і б'юцца бясконца.

## Рай і свабода

Ева кідала Адаму ў твар кавалкі непатрэбнай яму свабоды... І быў вечар, і была раніца, і была свабода.

## Белая нітка і новая сталіца

Казку гэтую я пачуў ад сваёй бабы Броні. Пачуў я казку пра Белую нітку даўно, пачуў і забыўся, а тут пабачыў кончык звычайнай чорнай ніткі, што вытыркалася з-пад гузіка на кашулі, пабачыў

і пацягнуў за яго. Ёсць у кончыка ніткі такая якасць — прымушае пацягнуць. Трэба ці не трэба, а пацягнеш. Пацягнуў — і выцягнуў усю нітку з гузіка, той адваліўся ад кашулі, упаў на падлогу, падскочыў і пакаціўся пад канапу. Давялося класціся на падлогу і даставаць гузік. Дастаў, тут і згадалася казка пра хлопчыка-пастуха, які пасвіў авечкі каля возера Свіцязь. Падышоў хлопчык да возера, а вада ў Свіцязі чыстая-чыстая, светлая-светлая, празрыстая-празрыстая. І ўбачыў пастух Белую нітку на вадзе ў Свіцязі. Узяў хлопец канец ніткі і пачаў цягнуць, а нітка цягнецца і цягнецца, цягнецца ды не сканчаецца. Пачаў пастух змотваць Белую нітку ў клубок. Калі зматаў ён клубок памерам з гусінае яйка, пабачыў, як з возера выплывае горад. Хлопчык цягне нітку і выцягвае з-пад вады цэлы горад з палацамі ды касцёламі, з цэрквамі ды кірмашамі... У горадзе тым народу процьма, і ўсе вясёлыя...

Адно што сабака злы выскачыў з-пад крамнай брамы ды паляцеў з брэхам наўпрост на пастуха. Той спалохаўся, кінуў клубок у Свіцязь і — уцякаць. Адбегся, азірнуўся, а горад ужо зноў схаваўся пад азёрнай вадою. Людзі кажуць, што каб хлопец не змотваў Белую нітку ў клубок, а прывязаў яе да хвойкі, дык чароўны горад Свіцязь так і застаўся б стаяць, а Беларусь атрымала б новую сталіцу. Чарадзейства чарадзействам, а пакуль сталіца ў нас яшчэ старая, давядзецца мне простай ніткаю прышыць да простай кашулі просты гузік.

## Залатыя гузікі

Дарыць залатыя завушніцы. Расшпільваць станік. Нямоцна пакусваць смочкі. Лашчыць жаночы гузік. Зазіраць у пупок. Любіць цябе на сабе. Любіць сябе ў табе. Любіць.

## Дабранач і сем злыдняў

У прыгажуні Дабраначы сем мужоў, сем злыдняў — Панядзелак, Аўторак, Сярэднік, Чацвер, Пятнік, Суботнік і Нядзельнік. Дабранач добрая, а мужы ў яе злосныя і жорсткія. Добра, што Дабранач бачыць кожнага з іх толькі раз на тыдзень. Добра, што кожны з мужоў думае і верыць, нібыта ён у Дабраначы адзіны і непаўторны. Добра, што мужы Дабраначы ніколі не бачылі і не ўбачаць адзін аднога, а то б... Лепей пра такое не думаць і такога не ўяўляць. Жыве сабе Дабранач і жыве са сваімі злыднямі. І няхай іх сумеснае жыццё будзе вечнае.

## Малы Цемрык і цвік-страла

Мужчына заўважыў Малога Цемрыка краем вока. Мужчына зайшоў у цёмнае памяшканне, запаліў святло і пабачыў,

як Малы Цемрык пабег на танюткіх ножках у чорны закутак пад батарэяю. Тамака Цемрык і прапаў, як заўжды. Не тое каб ён моцна раздражняў мужчыну ці палохаў яго сваімі нечаканымі з'яўленнямі. Не. І шкоды ніякай вялікай Малы Цемрык не ўтвараў, але мужчына вырашыў прыбіць пачварку. Мужчына задумаў прыстрэліць Малога Цемрыка, каб той не круціўся пад нагамі. Мужчына зрабіў невялічкі арбалет, які мог стрэліць цвікам-стралой з такой сілаю, што дошка на тры сантыметры таўшчынёю лёгка прабівалася навылёт. Мужчына зайшоў у цёмны пакой, пстрыкнуў выключальнікам, навёў арбалет на Цемрыка і пусціў стралу. Цвік прабіў Малога Цемрыка і напалову загнаўся ў бетонную сцяну. Чорная, як нафта, кроў хутка выцекла з маленечкага чалавечка. Мужчына сабраў кроў анучай, якую запіхнуў у цалафанавы

пакет разам з вялым цельцам застрэленай пачваркі. Мужчына першы раз пашкадаваў Малога Цемрыка ў той момант, калі пакет выкідаўся ў смеццеправодную трубу. Другі і апошні раз ён пашкадаваў Цемрыка, калі абцугамі вырываў са сцяны цвік-стралу.

## Калодзежная жонка і Залаты грабянец

Вырашыў мужчына ажаніцца. Лёгка было сказаць, ды цяжка зрабіць, бо надумаў мужчына знайсці сабе найпрыгажэйшую ва ўсім свеце жонку. Куды ён толькі ні лётаў! У якіх краях ён толькі ні шукаў! Пэўна, тры разы абляцеў, абшукаў і агледзеў той апантаны мужчына ўвесь свет, ажно пакуль не знайшоў аднавокага ведзьмака, які параіў пайсці жаніху ў Белавежскую пушчу, знайсці тамака закінуты кало-

дзеж, схавацца побач з калодзежам у зарасніку шыпшыны і ноч перачакаць. На досвітку вада ў калодзежы падымецца і паўстане з той крынічнай вады найцудоўнейшая ў свеце жанчына. Аднаго не ведаў аднавокі дарадца: як тую цудоўную прыгажуню затрымаць, бо як толькі яна некага бачыла, дык вокамгненна рассыпалася на безліч найдрабнюткіх слязінак-расінак і расплывалася ў паветры. Мужчына вырашыў папросту злавіць калодзежную прыгажуню на Залаты грабянец, які выпадкова прыдбаў у русалкі з возера Нарач. Пайшоў ён у пушчу, знайшоў калодзеж, схаваўся ў шыпшыне, а Залаты грабянец паклаў на сінюю ядвабную хустку, якую разаслаў каля самага калодзежа. Як казаў вядзьмак, так і адбылося: вада ў калодзежы ўзнялася, і выплыла з той вады доўгавалосая і яснавокая прыгажуня. Убачыла яна Залаты грабя-

нец, падышла да сіняе хусткі. Тут мужчына і схапіў яе за руку. Толькі ён дакрануўся да найпрыгажэйшай на ўсім белым свеце жанчыны, як тая пачала рассыпацца на слязінкі-расінкі, а разам з ёю пачаў рассыпацца на расінкі-слязінкі ды раставаць у паветры і малады мужчына. Яны прапалі, зніклі, як іх і не было. Залаты грабянец і сіняя хустка дасталіся аднавокаму ведзьмаку, што, можа, і цалкам справядліва.

## Жахліва-жоўтая кветка

Сямігадовы хлопчык папярэдзіў пяцігадовую сястру, каб яна доўга не глядзела на Жахліва-жоўтую кветку. Дзяўчынка не паслухала брата і доўга-доўга любавалася Жахліва-жоўтай кветкай. Праз тры дні дзяўчынка аслепла. Свае наступныя семдзесят сем гадоў дзяўчынка пражыла ў суцэльнай цемрадзі.

# Чорная канапа

Казку пра Чорную канапу я пачуў у скульптурнай майстэрні. Туды сабраліся паэты, каб пагаварыць пра жахлівыя гісторыі ды пачытаць свае вершы пра жудасці. Было вусцішна, змрочна і напружана. Хай сабе і пілася гарачая гарбата, хай сабе і еліся цукеркі ды салёнае печыва з сырам, а змрочныя настроі не пакідалі пазастаўляную гіпсавымі галовамі майстэрню. Каб не казка пра Чорную канапу, я наогул падумаў бы, што змарнаваў вечар, прасядзеўшы сярод гіпсавых залысінаў, гіпсавых падбароддзяў і гіпсавых патыліц. Добрую казку распавяла дзяўчынка ў вялізных акулярах...

У нашым горадзе жылі-былі тата, мама і дачка. Аднойчы яны купілі Чорную канапу. Яна была такая шырокая, такая мяккая, такая бліскучая, што дачка прасіла бацькоў, каб яны дазволілі ёй

паспаць ноч на новай канапе. Але маці сказала, што першую ноч на новай канапе паспіць тата. Раніцай, калі ўсе прачнуліся і сабраліся паснедаць, высветлілася, што таты нідзе няма. Сямейнікі падумалі, што тата прачнуўся рана-рана і пайшоў на працу. Увечары адпачыць на Чорнай канапе прылегла мама, яна прылегла толькі крышку адпачыць ды моцна заснула. Наступным ранкам дзяўчынка прачнулася ў кватэры адна. Яна шукала бацькоў, але ні тата, ні мама не знайшліся. Дзяўчынка паклала на Чорную канапу сваю любімую ляльку і села снедаць. Дзяўчынка ўжо даядала апошнюю лыжку рысавай кашы, калі ўбачыла, як Чорная канапа праглынула лялльку. Дзяўчынка перапужалася, бо зразумела, што Чорная канапа праглынула не толькі лялльку, а людажэрка праглынула тату і маму. Дзяўчынка патэлефанавала міліцыянтам і распавяла пра людажэрства Чор-

най канапы, якая з’ела яе тату, маму і ўлюбёную ляльку. Міліцыянты здзекліва пасмяяліся з расповедаў дзяўчынкі. Тады яна ўзяла цацачнага мядзведзя, засунула яму глыбока ў жывот востры нож і паклала цацку на Чорную канапу. Тая з’ела мядзведзя. Чорная канапа праглынула цацку разам з нажом і здохла. Дзяўчынка патэлефанавала дзеду. Ён хутка прыехаў, завалок дохлую канапу на сметнік і там яе кінуў. Дзяўчынка пераехала жыць да дзеда з бабай… Такую казку распавяла ў скульптурнай майстэрні дзяўчынка ў вялізных акулярах. Раней я ніколі не чуў, каб у казках міліцыянты пасміхаліся з перапалоханай дзяўчынкі, таму і занатаваў гэтую жахалку.

## Кілер, Круцік і ліфт

Бізнесоўцу Круціку прымроілася, што ён выходзіць з ліфтавай кабіны

і ў яго страляе кілер. Бізнесовец апаласнуў твар халоднай вадой, выпіў паўшклянкі гарэлкі, кінуў працу і паехаў дамоў. Па дарозе з працы дамоў Круціку зноўку прымроіўся кілер, які з аўтамата пускае ў яго даўжэзную чаргу. Круцік вырашыў не ехаць дамоў, ён паехаў за горад, каб пахадзіць па заснежаным лесе, каб пасядзець на дачы каля каміна, каб пап'янчыць пару-тройку дзён і супакоіцца... Кілер застрэліў бізнесоўца каля распаленага каміна ён пусціў у п'янога Круціка доўгую аўтаматную чаргу. Апошняе слова бізнесоўца было «ліфт».

## Шэры мост
## і дробныя феміністкі

У нашай сталіцы ёсць Шэры мост. Той мост ведаюць усе, бо наш галоўны праспект ідзе якраз праз Шэры мост.

Пад мостам плыве ціхая рака, а яшчэ там ёсць два праходы-праезды. У тым праездзе-праходзе, што бліжэй да пляца Перамогі, часам з’яўляўся Белы чалавек. Ён падыходзіў да мінака і прапаноўваў пакаштаваць гарэлкі. Калі мінак пагаджаўся і выпіваў з Белым чалавекам, дык спыніцца ўжо не мог, піў і піў гарэлку, пакуль не прапіваў усё чыста, пакуль не співаўся ўшчэнт і не паміраў. У кожнай казкі ёсць свой пачатак і заканчэнне. У адзін светлы дзень пад Шэрым мостам у праходзе-праездзе мінакі знайшлі труп Белага чалавека. Побач з трупам ляжалі дзве пластыкавыя шклянкі і напалову поўная бутэлька белай. Дасведчаныя людзі распавядалі, што адзін мужчына, якога спакусіў гарэлкай Белы чалавек, усё ж кінуў піць. Мужчына той піў, не спыняючыся, тры гады, тры месяцы і тры дні. Мужчына той сабраў волю ў кулак, зацiснуў волю

ў кулаку і піць кінуў. Ён кінуў піць і пайшоў пад Шэры мост. Ён узяў нож і пайшоў пад мост, бо ведаў, што Белы чалавек ізноў паспрабуе спакусіць яго белай і горкай. Чалавек сапраўды паспрабаваў спакусіць мужчыну паўнюткай шклянкай горкай і белай, за што і атрымаў нажом у жывот. Пад Шэрым мостам мінакі знайшлі скурчанага Белага чалавека з нажом у жываце. А таго мужчыну, які пад Шэрым мостам зарэзаў Белага чалавека, так ніхто і не знайшоў. Таму дробныя феміністкі пачалі казаць, што забойства спакушальніка пад Шэрым мостам здзейсніла жанчына. Ды хто ж паверыць дробным феміністкам у нашай сталіцы?

## Яна і ён

«Буду табе сніцца, каб не сумаваў». — «Абяцаеш?» — «Абяцаю!»

# Ружовая качачка

У адной дзяўчынкі была ўлюбёная цацка — Ружовая качачка. Дзяўчынка, колькі сябе памятала, столькі помніла і сваю Ружовую качачку. Цацка тая была пластмасавая, таму з часам яна і парэпалася, і падрапалася, і пачала страчваць пяшчотна-ружовы колер. Нягледзячы ні на што, дзяўчынка любіла сваю цацку. З ёй яна тры разы на тыдзень песцілася ў гарачай ванне. Без Ружовай качачкі дзяўчынка ў ванну ніколі не залазіла. Качачка абавязкова пускалася паплаваць па празрыстай вадзе перад прынцем ванны. Паціху-патроху дзяўчынка вырасла ў вялікую і таўсматую дзяўчыну, а яе Ружовая качачка моцна састарэла. Напярэдадні свята ўсіх закаханых і святога Валянціна дзяўчына, гуляючы па крамах, убачыла чырвоную качачку. Чырвоная цацка была рыхтык Ружовая

качачка, адно што колер крыху іншы, крыху цямнейшы і крыху гусцейшы. Дзяўчына набыла сабе новую цацку, а старую выкінула ў вядро са смеццем. Увечары дзяўчына пачала набіраць ванну і пусціла па вадзе новую, бліскучую чырвоную качачку. Праз нейкі час вялікая дзяўчына распранулася і залезла ў прыемную цеплыню. Дзяўчына выпрасталася і заплюшчыла вочы. Яна не бачыла, як у ванную бязгучна заляцела Ружовая качачка. Яна пачала расці, павялічвацца і шырыцца ва ўсе бакі. Яна павялічылася так, што заняла ўсю вольную прастору ў ванным пакоі. Дзяўчына расплюшчыла вочы і пабачыла вакол сябе старую, парэпаную ружовую пластмасу, якая павольна і няспынна наплывала на яе. Ружовая пластмаса націснула на дзяўчыну так, што той давялося сысці пад ваду і тамака захлынуцца. Праз якую гадзіну маці тоўстай дзяўчыны знайшла

сваю дачку мёртвай у ванне, што была поўная чыстай вады, на якой нерухома стаяла Ружовая качачка. Услед за дактарамі, маці палічыла гэтую заўчасную смерць за недарэчны выпадак, які здарыўся ў дзень святога Валянціна, на свята ўсіх закаханых і ўсіх раўнівых.

## Час і пілаванне

Жылі-былі, жылі-былі, жылі-былі, жыбы, жы-бы, жы-бы, ж-б, ж-б, ж-б... З такімі гукамі Час распілоўвае сваіх герояў.

## Шэрая акадэмія-павук у Шэрай краіне

У Шэрай краіне ёсць Шэрая акадэміяпавук. У Шэрай акадэміі-павуку працуюць акадэмікі-павукі, дактары-павукі і супрацоўнікі-павукі. Усе яны павучаюць жыхароў Шэрай краіны. Па ўсёй

Шэрай краіне раскінулася вялікая сетка павучальскіх устаноў. У іх ідуць непарыўныя працэсы шэрага павучання. Працэсы шэрага павучання ідуць на выдатна! Татальная большасць жыхароў вырастае павучальна-шэрымі і адэкватнымі сваёй Шэрай краіне.

## Бар, кухар і партманет

Пасля працы кухар заходзіў у бар і замаўляў выпіўку. Кухар працаваў у вялікім рэстаране, а выпіваць хадзіў у маленечкі начны бар. Ён замаўляў сто грамаў гарэлкі ды шклянку пустой вады. Выпіваў стоячы і сыходзіў. Так цягнулася гадоў дзесяць, калі не болей. Аднойчы рэстарацыйны кухар пакінуў на барнай стойцы партманет з грашыма. Бармен вырашыў не губляць заўсёднага кліента і раніцай прынёс кашалёк у рэстарацыю, балазе недалёка. Там ён пачуў, што прайшло

якраз сорак дзён, як кухар памёр. Партманет разам з грашыма застаўся ў начнога бармена, бо заслужыў.

## Следчы і застрэленая жонка

«Вы стаміліся і заснулі?» — запытаў следчы ў затрыманага. «Так, я прыйшоў дамоў стомлены, такі стомлены, што нават не вячэраў, а прыняў душ і лёг спаць». — «Вы леглі спаць адзін?» — «Жонка глядзела серыял, а я апошнім часам так стамляюся, што тэлевізар глядзець не магу. Засынаю на канапе. Сяду перад экранам, а праз хвіліну ўжо сплю». — «Вы леглі спаць, заснулі і прачнуліся пасярод ночы?» — «Так, я прахапіўся пасярод ночы, бо закрычаў і прачнуўся ад уласнага крыку. Мне прыснілася, што я разам з жонкаю ляжу ў глыбокай яміне з чорнай зямлёю. Я крыху паварушыўся, зямля пачала абсыпацца, і я ўба-

чыў, што мы ляжым на трупах, крышку прысыпаных чорнай і тлустай зямлёю. Ад страху я пачаў крычаць, ад свайго крыку я прачнуўся». — «Вы прачнуліся і пабачылі, што жонкі побач з Вамі няма?» — «Так, я пабачыў, што яе няма, і пайшоў шукаць...» — «Вы абышлі свой дом, потым выйшлі на ганак і ўбачылі святло ў вокнах суседскага дома?» — «Суседзі часта ладзяць вечарынкі. Кожную пятніцу ў іх вечарынка, музыка і поўна гасцей. А я пад канец тыдня паўмёртвы. Сусед запрашае, а я не магу да яго хадзіць, бо ў пятніцу зусім ніякі. Мне ў выходныя трэба адпачыць!» — «Вы абышлі свой дом...» — «Абышоў дом і зразумеў, што жонка пайшла на вечарынку да суседзяў. Я ніколі не забараняў жонцы хадзіць на вечарынкі. А тут нешта здарылася ў мяне з галавою. Я ўзгадаў песню: "Віжу ў полі быў шацёр; / У том шатре татары, / Між татараў мая мілая, / Мілая

гуляіць, / На мяне платком махаіць: / — Ні наезжай, міленькій, / На чужу дальнію старонку, / Паціраеш, міленькій, / Сваю буйную галоўку...” Такая песня мне ўзгадалася. Я выйшаў на ганак і ўбачыў святло ў доме суседа...» — «Вы ўбачылі святло ў суседскім доме, пачулі музыку, узгадалі песню і ўзялі стрэльбу?» — «Я спяваў песню, спяваў нашу беларускую песню: “Я татараў ні баюся: / Я татараў усіх парублю, / Цябе, шэльму, пачвяртую. / Выхвачу вострую меч, / Сыму жане галаву з плеч: / — Ні даставайся, мілая, / Ні мне, ні татару, / Даставайся, мілая, / Сырой матушке-зямелькі!” Спяваючы, дастаў стрэльбу, спяваючы, прыйшоў да суседа і застрэліў жонку. Спяваючы, я застрэліў суседа, астатнія паўцякалі». — «Вы прызнаецёся ў забойстве жонкі і суседа?» — «Так, усё, як у нашай беларускай песні. Я прызнаюся ў забойстве суседа і жонкі, я іх застрэліў са сваёй паляўнічай стрэль-

бы. Я пэратаміўся, яны не давалі мне адпачыць, і я іх, як у песні...»

## Пра марнасць чарговай спробы

Ён адчуваў сябе так, як зачынены з сярэдзіны пакой. Ён спрабаваў выйсці з гэтага адчування. Спрабаваў — і не змог.

## Светлая вайна

Афіцэр прыехаў з правінцыі ў сталіцу ды пасяліўся ў гатэлі «Кастрычніцкі». Супрацоўнікі гатэля знарок далі вайскоўцу нумар з рагатым чортам. Даўгахвосты чорт моцна дапякаў «Кастрычніцкаму», бо здзекаваўся з супрацоўнікаў, і з кліентаў, і нават з работнікаў гатэльнай рэстарацыі. Правінцыйны афіцэр меў выгляд праўдзівага ваяра, нязломнага нібелунга, непераможнага асілка, таму і пасялілі

яго ў нумар з рагатым гадам. Уночы чорт вылез з-за шафы і хацеў па-даросламу пужануць кліента. Чорт скочыў на ложак, каб наваліцца на чалавека і задушыць. Але асцярожны афіцэр спаў на падлозе, за ложкам. Калі рагаты апынуўся на ложку, афіцэр ускочыў і трупнуў чорта пісталетам у патыліцу. Як толькі даўгахвосты чорт крыху ачомаўся, афіцэр загадаў яму устаць, выструніцца і распачаць падрыхтоўку да светлай вайны. Афіцэр сказаў, што вайна набліжаецца, што светлая і святая вайна восьвось пачнецца, а таму чорт, як і кожны грамадзянін, павінен навучыцца змяншацца да памераў мухі. Чорт запэўніў вайскоўца, што ён умее змяншацца да памераў жамярыны. Рагаты нават паказаў цуд, ён нават зменшыўся да памераў мушкі-зелянушкі. Тады афіцэр узяў чорта за танюткую нітку хваста і спаліў у полымі сваёй запальнічкі «Зіпа».

# Шэрыя пальчаткі

Хлопец запрасіў дзяўчыну на спатканне. Яны сустрэліся каля станцыі метро «Купалаўская» і пайшлі ў бок Дома афіцэраў. На ходніку дзяўчына заўважыла абсалютна новую Шэрую пальчатку. Дзяўчына ажно спынілася, разглядаючы знаходку. «Выдатная рэч! Падымаць з зямлі чужое, вядома, кепска. Але, каб мы знайшлі не адну, а дзве такія пальчаткі, я іх абавязкова б падняла!» — сказала дзяўчына, і маладыя людзі пайшлі далей, да берага Свіслачы. На масце праз рэчку дзяўчына ўбачыла другую Шэрую пальчатку і моцна пашкадавала, што не падняла першую. Хлопец пабег назад, каб прынесці сваёй дзяўчыне (калі ніхто не забраў!) першую пальчатку. Каля Дома афіцэраў Шэрай пальчаткі ўжо не было. Калі хлопец вярнуўся на мост праз Свіслач, тамака таксама не было Шэрай

пальчаткі. І — што яшчэ значна горш — разам з пальчаткамі прапала і дзяўчына. Пакуль яна стаяла на мосце адна, з вады выпаўз шэравалосы і шэраскуры вадзянік у Шэрых пальчатках і зацягнуў дзяўчыну ў шэраводную рэчку.

## Чарцяняка, баба і пляшка гарэлкі

«Чорт не чорт, калі не ўмее здзекавацца з чалавека. Ідзі і здзекуйся! Калі ў цябе атрымаецца падбіць якога мужа, каб ён забіў сваю жонку, тады і ты з чарцянякі зробішся чортам!» — так сказаў стары чорт маладзенькаму і выпхаў яго з чырвонага пекла на зялёную зямлю. Чарцяняка перакуліўся на траве цераз галаву і такім чынам з бруднахвостага чарцянякі перакінуўся ў модна апранутага маладзёна з бутэлькай шампанскага. Каштоўным шампанскім маладзён напаіў жанчыну. Ён схлусіў, што ў яго

дзень народзінаў і няма з кім выпіць, і ён будзе страшэнна ёй удзячны, калі яна зробіць адзін малюпасенькі глыток. Жанчына зрабіла адзін, другі, трэці, дзясяты глыткі і напілася. П'яную бабу чарцяняка завёў дадому. Там баба ўсхадзілася. Пачала яна на мужа крычаць, пачала мужу пагражаць, пачала на мужа лаяцца апошнімі словамі. Муж спакойна трываў лямант раз'юшанай бабы, пакуль тая не схапіла са стала ягоную поўную, яшчэ нават не адкаркаваную пляшку гарэлкі і не бразнула яе аб кафляную падлогу. Муж пачаў жонку біць. Ён яе біў і біў, ажно пакуль душа з жонкі не выляцела. Маладзён схапіў душу забітай бабы, перакінуўся ў чарцяняку і праваліўся з зялёнай зямлі ў чырвонае пекла. Там яго сустрэў стары чорт і павіншаваў: «Ты з чарцянякі стаў чортам. Чорт толькі тады чорт, калі ён здатны чалавека закатаваць!»

# Баба, каток і вартаўнік

Адна баба вырашыла пакатацца на каньках. Баба была таўстухаю. Яна спрабавала худнець, але ў яе кепска атрымлівалася. Калені ў бабы былі шырокія, а ногі — крываватыя. Як ты ні худней, а калені якімі былі, такімі і застануцца, ды ногі ад пахудання раўнейшымі не зробяцца. Баба засталася таўстухаю. На каток яна прыйшла позна ўвечары, калі народу тамака мала. Баба каталася вакол елкі так доўга, што засталася на катку зусім адна. Стамілася яна страшэнна. Ногі гулі. Калі баба зняла канькі і абула боты, дык ледзьледзь ішла. Ні метро, ні аўтобусы ўжо не хадзілі. Таксовак на праспекце не было. Тут баба ўзяла ды сказала: «Нідзе нікога няма! Каб лысы чорт прапанаваў падвезці мяне дамоў, дык села і паехала б!» Тут чорт і з'явіўся. Праўда, ён быў не лысы, а кудлаты. Чорт моцна кульгаў, але прапанаваў

бабе залезці яму на шыю і так ехаць дамоў. Баба ўзлезла на чортаву шыю, і нячысты пачыкільдыгаў па праспекце Незалежнасці ў бок пляца Перамогі. Кульгаючы і праклінаючы свой незайздросны лёс, чорт занёс тоўстую бабу ажно ў Зялёны Луг, дзе яна мела кватэрку. Нячысты прынёс таўстуху пад самы пад'езд. Ён думаць не думаў, што баба не захоча злазіць з ягонай цёплай шыі. Яна заціснула кудлатую галаву гарачымі сцёгнамі, ашчаперыла чортава тулава крывымі нагамі і загадала нячыстаму катаць яе далей. Добра, што ў чорта быў знаёмы вартаўнік на Усходніх могілках. Нячысты прынёс нахабную бабу на могілкі і папрасіў вартаўніка: «Даражэнькі, спіхні ты з мяне гэтую тлустую бабу!» Вартаўнік ударыў бабу рыдлёўкай па галаве, і толькі тады яна злезла са зморанага чорта. Вартаўнік хацеў яшчэ раз ударыць таўстуху рыдлёўкай, але чорт заступіўся: «Хай коціцца

ў свой Зялёны луг! А мы з табой, даражэнькі, вып’ем і адпачнем на ціхіх і беласнежных могілках!»

## Чорная гарэлка

У мужчыны памёр таварыш. Мужчына прыйшоў у бар і замовіў гарэлкі. Мужчына піў гарэлку і плакаў. Мужчына плакаў, слёзы капалі ў празрыстую чарку. Ад мужчынскіх слёз белая гарэлка рабілася чорнай. Мужчына піў Чорную гарэлку. Ён піў гарэлку, пакуль не заснуў. Мужчына праспаў, седзячы ў бары, гадзіны тры. Прачнуўшыся, ён расплаціўся і сышоў. Праз тры месяцы мужчына, што піў Чорную гарэлку, раптоўна памёр.

## Блакітнае вока

Быў-жыў мастак. Усё ў таго мастака было: і аловак, і пэндзлік, і палатно, і эцюд-

нік на жалезных ножках. Аднаго не хапала мастаку: доўгі час яго ніхто нічога не прасіў намаляваць, не было ў мастака замовы. Сядзеў ён у сваёй студыі каля мальберта, сядзеў і ў роспачы на поўны голас сказаў: «Божа, каб сам чорт мне замову зрабіў, я не адмовіўся б!» Чорт да мастака не з'явіўся ні ў той дзень, ні ў дзень наступны, але праз тры дні прыйшла да яго вытанчаная жанчына і папрасіла намаляваць сынаў партрэт. Мастак, вядома, узрадаваўся. Малады чалавек прыходзіў у студыю, і там павольна пісаўся ягоны партрэт. Юнак быў надзіва абаяльны, адно моцна псавала аблічча — чырвонае левае вока. Мастак сказаў натуршчыку пра пачырванелае вока, той падзякаваў мастаку, дастаў з курткі флакон з кроплямі і пакрапаў у хворае вока. Тое адразу ж набыло дзівосна-блакітны колер. Мастак моцна захапіўся працаю, ён пісаў партрэт

цэлы тыдзень, не выходзячы з майстэрні. Партрэт быў амаль завершаны, калі натуршчык закапваў запаленае вока. Ён закапаў і сышоў, а кроплі засталіся ў студыі. Мастак працаваў цэлы тыдзень, і вочы ў яго таксама пачырванелі, таму і ўзяў ён кроплі і крапнуў сабе ў вока. Божа-божа, свет для мастака перакуліўся і разваліўся на дзве часткі. Закрапаным вокам ён убачыў тое, чаго не бачыў раней. Наваколле пачарнела і пачало паміраць. На свежым партрэце быў зусім не малады чалавек, а страхалюдны чырванавокі чорт! Мастак выйшаў на вуліцу і абышоў квартал. Адным вокам ён бачыў светлы і чысты горад, а ў другім былі руіны, у якіх соваліся гнілыя паўтрупы. Мастак вярнуўся ў майстэрню і затэлефанаваў замоўцам. Ён сказаў, што праца над партрэтам скончаная і твор можна забраць. Не прайшло і трох хвілін, як у майстэрні з'явілася чарціха. Адным

вокам мастак усё яшчэ бачыў вытанчаную жанчыну, а ў другім воку скакала на танклявых ножках віслалупая чарціха з кароткім хвастом. Замест абяцанай тысячы еўра чарціха сунула мастаку пакамечаныя абгорткі ад цукерак «Знічка» і «Камунарка». Мастак абурыўся, і гэта было памылкаю. «Якім вокам ты бачыш абгорткі цукерак “Камунарка” і “Знічка”?» — пацікавілася віслагрудая чарціха. «Пра...» — толькі і паспеў вымавіць мастак, а кіпці чарціхі ўжо выдралі ягонае правае вока. Гэтую гісторыю пра цукерачныя абгорткі можна пачуць у кавярні «Акварыум». Калі мастак добра вып’е, ён абавязкова распавядзе табе пра стасункі з чарцямі. Ён будзе распавядаць і паказваць сваё Блакітнае вока, бо цяпер у мастака цудоўны пратэз. Галоўнае, каб ён не перабраў гарэлкі, бо тады мастак дастане з вачніцы сваё Блакітнае вока і разаб’е яго аб сцяну.

# Метамарфозы на возеры Віцязь

Іголка раздзьмулася, пакруглела і зрабілася яйкам; яйка крутнулася, абрасло пёрамі і стала качкаю; качка пабегла па вадзе, выбегла на бераг, пакрылася поўсцю і перакінулася ў зайца; заяц скокнуў пад куст, знерухомеў і ператварыўся ў куфар. Куст пачаў расці і вырас у высокі дуб; той дуб цяпер узвышаецца на выспе, што ляжыць пасярод возера Віцязь; на тым дубе вісіць на залатых ланцугах срэбны куфар; у якім сядзіць шэры заяц; у сярэдзіне якога спіць шэрая качачка; у якой ляжыць белае яйка; а ў тым яйку схавана іголка з кропляй неўміручасці на самай дзюбцы. Калі табе трэба неўміручасць, дык ідзі да возера Віцязь і бяры яе.

# Сіні пацук

У мужчыны жыў Сіні пацук. Мужчына ніколі з тым пацуком не загаворваў. Карміць карміў, паіць паіў, клетку пацучыную прыбіраў ды мыў, але рабіў гэта ўсё моўчкі. Настаў чорны дзень, і Сіні пацук здох. Мужчына закапаў у зямлю адзінага сябра — Сіняга пацука. Стоячы над плыткай магілкаю, мужчына спытаў: «Што рабіць?» З-пад зямлі пачуўся тонкі голас: «Ідзі ў казіно “Монтэ-Карла” і пастаў на адзінаццаць!» Мужчына схадзіў у казіно, паставіў на адзінаццаць і выйграў. З выйгрышам мужчына вярнуўся да плыткай магілы і спытаў: «Што рабіць?» — «Ідзі на чыгуначны вакзал і тамака набудзь у аднавокага прадаўца латарэйны квіток». Мужчына знайшоў аднавокага прадаўца, набыў квіток і праз дзень выйграў аднапакаёвую кватэру. Мужчына прынёс на магілу Сіняга пацука белыя гваздзікі

і спытаў: «Што рабіць?» — «Ідзі ў краму “Прырода” і набудзь Сіняга пацука! Сюды больш не прыходзь і не турбуй мяне». Мужчына ў краме «Прырода» набыў сабе маленечкага Сіняга пацука.

## Сівагаловы гульнятэхнік

У старога гульнятэхніка ўстаў чэлес. Нічога кепскага ў тым, што ягоны ворган яшчэ змог напяцца, не было. Кепскасць утойвалася ў часе, калі адбылося паўстанне. Чэлес гульнятэхніка ўзбудзіўся падчас гульні. Сівагаловы тэхнік вёў тэлегульню на дзяржаўным канале, а ягоны чэлес узяў ды падняўся. Каб запісвалася якая муйня, кшталту нямецкай аматарскай порназабаўкі, усё было б на сваім месцы. Але ж сівагаловік вёў гульню на дзяржаўным канале. Стары, сівагаловы, сівабароды дурыла праводзіў мовазнаўчую гульню з падлеткамі,

і так ён захапіўся, так затрымцеў, так заперажываў, што не заўважыў, як перад камерамі пачаў пагладжваць абедзьвума рукамі ўласны напяты чэлес. Добра, што рэжысёр своечасова заўважыў незапланаваную напружанасць і наказаў аператарам прыбраць паскудства з экранаў. Аператары загад выканалі. Усе былі ўпэўненыя, што напяты ворган на шырокі экран не патрапіў. А ён, гад, патрапіў! Народ пабачыў напяты чэлес на дзяржаўным канале і абурыўся. Народ абурыўся, і сівавусага гульнятэхніка выгналі з дзяржаўнай службы. Цяпер гэты тэхнік на ўсіх скрыжаваннях кажа, што пацярпеў за палітыку і за свабоду... слова!

## Бог і чалавек

Чалавек стварыў сабе Бога. Верыць у веліч Бога, якога стварыў чалавек, атрымлівалася кепска. Тады чалавек прыдумаў сабе

такога Бога, які стварыў чалавека. Верыць у веліч Бога, які стварыў чалавека, атрымліваецца ў чалавека значна лепей, чым верыць у Бога, якога стварыў чалавек. Але найлепшым чынам у чалавека па-ранейшаму атрымліваецца нявер'е ў Бога.

## Душа і цукар

Мужчына сядзеў у кавярні адзін. Была сонечная сакавіцкая раніца, і кавярня стаяла зусім пустая. Увечары ў ёй будзе поўна народу, будзе шумна і тлумна. Зранку ў ёй чыста, светла і прасторна. Мужчына піў каву і разглядаў пустыя жоўтыя і сінія крэслы. Тут да яго і прыляцела душа сябрука-нябожчыка. Яна села на самы край стала і запытальна паглядзела на мужчыну. Той моўчкі піў горкую і чорную каву. Пакецікі з цукрам ляжалі на сподку некранутымі. «Пачастуй мяне!» — папрасіла душа. Мужчына надар-

ваў зялёны пакецік і насыпаў на сподак гурбачку цукровага пяску. «Лепш бы ты мне гарэлкі наліў!» — душа пакрыўдзілася, скрывілася і прапала.

## Куніка і Менік

Менік закахаўся ў Куніку з першага погляду. Пабачыў, знямеў і загарэўся. Жаночае сэрца адчула цяпло мужчынскага кахання і адказала ўзаемнасцю. Здавалася б... Не! Куніка не сказала Меніку пра сваё глыбокае пачуццё. Менік гэтаксама ні гукам, ні жэстам, ні словам не выдаў сваю жарсць. Куніка з Менікам пражылі два доўгія паралельныя жыцці. Менік з Кунікай пазбягалі сустрэч, а калі і сутыкаліся выпадкам, дык размаўлялі знарочыста халодна. Так і памерлі яны, не прызнаўшыся ў каханні. Сустрэўшыся ў новым свеце, Менік не пазнаў Куніку, і яна не пазнала яго.

## Вупыры і веры

Вупыр беларускі адрозніваецца ад вупыра расейскага сваёй неперабарлівасцю, бо кроў каталіцкая яму такая ж смачная, як і праваслаўная. Расейскаму вупыру самая смачная — кроў праваслаўная.

## Шэры генерал і праўда

Шэры генерал загадаў прывесці салдата, які распавядаў саслужбоўцам, нібыта ён быў у пекле падземным і ў раі нябесным. Загад выканалі, салдат стаяў перад шэрымі вачыма генерала: «Сынок, ты наведаў пекла? Як там, пад зямлёю?» — «Горача, таварыш генерал! Чэрці грэшных людзей на агні падсмажваюць». — «Кажуць, ты ўцёк з пекла і трапіў у рай нябесны. Ці праўда гэта?» — «Праўда, таварыш генерал. Я скраў

у д’ябла ключ ад пекла і ўцёк. Гэтым жа ключом я адчыніў і райскую браму. Ключ, Вы не паверыце, універсальны, адчыняе любыя замкі. Д’ябал — выдатны майстра». — «Сынок, хлопцы кажуць, ты сядзеў за адным сталом з Хрыстом, піў ягонае віно і еў ягоны хлеб. Яшчэ кажуць, нібыта ты ўкраў у Хрыста цыбуліну. Няўжо ты краў не толькі ў пекле падземным, але і ў раі нябесным?» — «Так, таварыш генерал, моцна есці захацелася, агаладаў я ў вандроўках пад зямлёю і на небе, таму і скраў у Хрыста горкую цыбуліну, скраў і з’еў яе з хлебам ды глытком віна». — «Малайчына, сынок, ты правільна зрабіў, расказаўшы праўду свайму генералу. Ты маладзец, сынок, але ты — нягодны салдат. Ты — злодзей невыпраўляльны, і табе няма месца ў нашым войску!» — Шэры генерал прыстрэліў злодзея і загадаў прыбраць труп.

# Таксоўшчык і барсетка

«Вёз я старых: дзед і баба сівенькія, слабенькія, папхні — і парассыпаюцца на кавалачкі. Вёз з аэрапорта ў гатэль. Прывёз, выгрузіў, нават чамаданы да рэцэпцыі дапамог давалачы. Там яшчэ дзеўка маладая за стойкай сядзела, такая футы-нуты парцье — глянеш і закахаешся. Я папрасіў яе папрыгледзець за старымі, пакуль тых сын не забярэ. Не ведаю, як там і што там у іх сям'і па-жыцці складалася, але з гатэля старых мусіў забраць сын, і ўсе разам яны вылятали з Масквы ў Вашынгтон. Нейкія ў іх там справы. Вярнуўся я ў машыну і паехаў на выклік. Паўдня праездзіў, а тут адзін пасажыр, звычайны мужык, такі, як і ты, кажа, што ў мяне пад заднім сядзеннем барсетка ляжыць. Спыніўся я. Апошнім часам на чужыя рэчы, сам ведаеш, рэакцыя адназначная. Тэрор! Выбухі! Чорт

яго ведае, што ў той барсетцы знойдзецца. А там пяцьдзясят тысяч баксаў знайшліся і розныя паперы тых старых, якіх я ў гатэль засяліў. Завёз я мужыка, падобнага да цябе, на плошчу Маякоўскага, а потым матануў у гатэль. Змена ў прыгажуні яшчэ не скончылася, яна завяла мяне ў нумар да старых. Дзед з бабаю далі мне тысячу даляраў за сумленнасць. Я мог бы, але я не мог, бо таксіст павінен быць сумленны! Бо за вялікімі грашыма людзі вяртаюцца. Лепей атрымаць тысячу і прагуляць яе з гатэльнай футы-нуты прыгажуняй, як я прагуляў. Прагуляў за выходныя тысячу баксаў да апошняга цэнціка і не шкадую. Лепей так зрабіць, чым хапануць чужое і чакаць, калі прыйдуць людзі і адарвуць табе башку. Во як!»
Такую казку я пачуў ад маскоўскага таксоўшчыка, калі ехаў вакол узлётнага поля Шарамецьева з тэрмінала D ў тэрмінал B. На нейкі час казка падалася мне

малацікавай, але пазней я вырашыў яе запісаць. Чарговыя выбухі на станцыях маскоўскага метро спарадзілі хвалі змрочных настрояў. Таму я запісаў казку пра Маскву з добрым заканчэннем. Вядома, казка, вядома, ад таксоўшчыка праўды не пачуеш ніколі, вядома... І ўсё ж футы-нуты!

## Русалка і Чорт

Русалка — жанчына, у якой усё мяса ў хвасце. Чорт — мужчына, чыя сіла ў рогах.

## Іншае месца

Ёсць мясціны ў старым горадзе, дзе мужчына сустракаў самога сябе ў выглядзе хлопчыка. У такую мясціну ён прыходзіў яшчэ па некалькі разоў, але цуд не паўтараўся. Калі зусім гублялася надзея

сустрэцца з сабою-хлопчыкам, мужчына зноў сустракаўся з ім, але выпадкова і ў іншым месцы.

## Яны і сон

«Яны не спяць!» — «Зусім?» — «Як толькі нехта з іх узнясецца на вяршыню ўладнай піраміды, так адразу і перастае спаць. Ім здаецца: варта толькі заснуць, як свет пачне руйнавацца і разбурыцца ўшчэнт!» — «Цін не спіць?» — «Цын, які прызначаў Ціна, не спаў, і Цін, адпаведна, цяперака не спіць!» — «І Дзяў не спіць?» — «Дзяў нават у ложак не кладзецца!» — «Няўжо Ама не спіць? Выглядае ён бадзёра!» — «Яны ўсё выглядаюць здаровымі і бадзёрымі. У іх праца такая — выглядаць добра і свежа. З таго моманту, як абвясцілі пра перамогу Амы на выбарах, так ён болей не спаў ніводнага разу». — «Няўжо і Ка такі ж?» — «Адпа-

чываць Ка адпачывае, але спаць не спіць!» — «Нешта мне не верыцца, што ўсе яны зусім не спяць». — «Схадзі ды праверь». — «Хто мяне да іх пу...» — «Во-о-о! Яны не спяць!»

## Чорт і Галя

Галя гадзіла ў каментарах. Яна запаўзала на форумы да вядомых блогераў і пісала абы-што. Пра падобныя паводзіны людзі кажуць — сера ў каментах. Галя паскудзіла не толькі ў вядомых блогах, яна паскудзіла паўсюль, дзе толькі магла далезці і напаскудзіць. Так яна неабачліва насрала ў камент праўдзіваму Чорту. Прыйшла і навваліла дурноты-бязглуздзіцы абракадабрычнай. Чорт тэлепартаваўся да Галі ў кватэру і прымусіў флудзершу з'есці жменю гузікаў. Галя плакала, але глытала рознакалібравыя і рознафактурныя гузікі адзін за адным. «Цяпер, калі

ты, Галя-труля-ляля, пачнеш гузікі высіраць, ты будзеш згадваць мяне — Чорта! Ты, Галя-гузіка-сраля, згадаеш яшчэ і тое, што я табе зараз скажу... Калі ты, Галя-дура-граля, яшчэ раз насераш мне ў каментах, я прыйду да цябе і прымушу з'есці не жменю маіх рознакаляровых гузікаў, я прымушу цябе заглынуць усе тvae ўпрыгожванні разам з накладнымі пазногцямі. Ты абгрызеш і праглынеш штучныя пазногці! Ты з'ясі завушніцы, пацеркі, кулоны, крыжы, ланцужкі, пярсцёнкі і брошкі. Ты іх з'ясі, а потым паспрабуеш высраць... Не! Ты не зможаш высраць брошку! Паспрабуеш і... Ты цяпер падумаеш пра высіранне брошкі перад тым, як нагадзіць у чужым блогу! Гы-гы-гы і бу-га-га!» Чорт выпарыўся з кватэры. Галя засталася сядзець на прыкамп'ютарным крэсле са страўнікам, поўным цвёрдых гузікаў. Высіраліся гузікі цяжка, з пакутамі ды слязамі...

# Бэзавы дэман і дэмаралізацыя

У палацы завёўся дэман. Як? Чаму? Нашто? Ніхто не змог адказаць. Ваяваць з дэманам спрабавалі, але ўся вядомая людзям зброя не дзейнічала. Кулі праляталі скрозь дэмана, як кроплі дажджу праз туман. Ніякай шкоды Бэзавы дэман не рабіў, але ягоная прысутнасць дэмаралізавала ўсіх. Усіх, гэта значыць, што дэман дэмаралізаваў нават уладальніка палаца. На вялікай нарадзе было вырашана, што будуць знойдзены людзі, здатныя прыбраць Бэзавага дэмана. Праз тыдзень знайшоўся настаўнік, які паабяцаў вывесці дэмана не толькі з палаца, але і са сталіцы. Настаўнік абяцанне выканаў. Ён пакарміў дэмана дыяментамі, і той зрабіўся паслухмяны, як выхаванае ў любові дзіця. Настаўнік прывёз Бэзавага дэмана ў пушчу, дзе той пага-

дзіўся застацца. Служкі з палаца прасачылі за Бэзавым дэманам. Калі дэман сышоў у зялёную пушчу, яны забілі настаўніка. Яны забілі настаўніка як сведку дэмаралізацыі.

## Каралева...

«Снежная каралева! Снежная каралева!!! Распрануў: снежная баба, звычайная».

## Залатакрылы голуб і шэрагаловая галубка

Жанчына сумавала. Яна працавала загадчыцай абутковай крамы. Мела добры заробак. Жыла з цвярозым мужам і двума дзецьмі. Але жанчына маркоцілася той глыбокай маркотаю, што навальваецца з-за недалюбленасці. Яна ведала, што муж не моцна яе любіць.

Жыве з ёю, бо зручна, бо ўтульна, бо смачна. «Не-э-э лю-бі-ць!» — сама сабе сказала жанчына і пабачыла Залатакрылага голуба. Той сядзеў на высокім каштане, які рос у двары за абутковай крамаю. «Каб я была галубкаю, ён палюбіў бы мяне!» — падумала загадчыца крамы і перакінулася ў шэрагаловую галубку. Залатакрылы голуб узняўся з каштана, падляцеў да новаабернутай галубкі, агарнуў яе залатым крылом, і яны злюбіліся назаўжды.

## Сіняя трава

Старая жанчына даведалася з народнага чарнакніжжа, што пад Магілёвам на закінутых могілках расце Сіняя трава. Вырастае яна ў Купальскую ноч на кургане князя-прыгажуна-тапельца. Калі той Сіняй травы назбіраць, выціснуць з яе сок, а тым сокам нацерці пад пашка-

мі, дык можна памаладзець і абярнуўцца са старой каргі ў стрункацелую вядзьмарку. Напярэдадні Купалля старая ўзяла чаўнок і паплыла-паплыла-паплыла са сваёй Воршы ў бок цудадзейнага Магілёва. Старая верыла, што лёс дасць ёй магчымасць назбіраць Сіняй травы. Верыла, што яна сінім густым траўным сокам панацірае пад пахамі, абернецца ў вядзьмарку, раскіне рукі і паляціць над аблокамі на блакітную поўню... Больш ніхто ніколі тую старую чарнакніжніцу не бачыў. Пэўна ж, патанула яна ў начным і чорным Дняпры.

## Маральная падтрымка

У мужчыны памерла былая жонка. Ён сабраўся ісці на пахаванне, але не пайшоў, бо новая жонка вырашыла маральна падтрымаць свайго амаль удаўца. Жывая жонка аказвала мараль-

ную падтрымку жывому мужу на працягу трох гадзін. На развітанне з нябожчыцаю ў крэматорый мужчына не патрапіў. Гэтым разам.

## Воўчы апетыт

«Заяц!» — Няма адказу. «За-а-аяц!» — Адказу няма. «За-а-а-а-аяц!» — «Што табе трэба, Воўк?» — «Заяц, ты мяне хочаш?»

## Джульет і Рамонка

Уночы Джульет стаяў пад вакном і чакаў сваю каханую Рамонку. Стаяў і чакаў. Дачакаўся і дастаяўся.

## Дама і Сабака-табака

Чалавек бярэ да сябе жывёлу, каб любіць. Ён яе корміць, даглядае, калі спатрэбіцца, лекуе. Ён перажывае за ўлю-

бёнца. Так звычайна і бывае. Дама, пра якую пойдзе гаворка, набыла сабе сабаку, каб было на кім зрываць злосць. Дама ўзяла ў дом звярка, каб крычаць на яго і біць. Дама здзекавалася з сабакі, а калі ён надакучыў, завярнула на яго шафу з адзежаю ды абуткам. Шафа расціснула сабаку, як кухар-пекар кураня, і звераня зрабілася Сабакам-табакам. Дама выкінула расціснутае цельца ў смеццеправод. Суседзям сказала, што Сабака-табака — вынік неспрыяльных абставінаў. Яна перасоўвала мэблю, а ён падлез не ў той час ды яшчэ і не ў тое месца. Суседзі нават спачувалі даме, якая нібыта згубіла ўлюбёнца. Суседзі думалі, што дама напраўду моцна любіла сабаку. А што яны маглі падумаць, калі гэтая дама праз дзень завяла сябе новага сабаку, рыхтык старога? Пэўна, дама папіхнула б шафу і на новага неўлюбёнца, але ёй у сне з'явіў-

ся Сабака-табака і напужаў-настрашыў-напалохаў так, што дама не змагла прачнуцца. Адпомсціў за здзекі.

## Бліскучая рыдлёўка

Бяздзетныя муж з жонкаю любілі гарод. Яны вырошчвалі гуркі ды гарбузы, даглядалі буракі ды моркву, палівалі памідоры ды кроп так, як ніхто ў мястэчку. Пацісоны, часнык ды цыбуля выраслі ў іх узорным гародзе да невераг одных памераў. Гароднікі вельмі ганарыліся сваімі сельскагаспадарчымі культурнымі дасягненнямі. А калі надарылася магчымасць узяць пад гарод яшчэ адзін кавалак зямлі, муж з жонкаю яго ўзялі. Яны не надта перайма ліся, што занялі зямлю незаконна. У калгасе не хапала людзей, каб апрацаваць усе палеткі. Таму старшыня і заплюшчыў вочы і нібыта не бачыў таго захопу. Ста-

ранныя гароднікі за лесам насадзілі бульбы. Даглядаць свой гарод і захопленую зямлю было цяжка. Жанчына padarвалася і памерла. Удавец пахаваў гаротніцу-гародніцу і прыйшоў за лес, да бульбы, каб легчы на сырую зямлю ды выплакацца. Гора ў мужчыны падвоілася, бо пабачыў ён старога, які Бліскучай рыдлёўкаю выкопваў маладую бульбу. «Што ж ты, пень трухлявы, маю маладзенькую бульбу крадзеш?» — «Не твая тут зямля, не твая і бульба! — стары ўзняў на мужчыну Бліскучую рыдлёўку, — не падлазь, засяку». — «Зямля не мая! Але ж бульбу я пасадзіў сваю, садзіў яе разам з жонкаю, якая падарвалася на гэтым трыклятым полі і заўчасна згасла... А ты, спарахнелы грыб, якое маеш права на гэтае поле?» — «Тут мая зямля! Яе ў мяне гвалтам забралі! Я паспрабаваў зямлю бараніць, але мяне тут вось і застрэлілі-забілі ды закапалі. Як гаспадар, я выхо-

джу з-пад зямлі і правяраю, як на маім полі справы ідуць і як бульба родзіць! Калі ты такі спраўны гароднік, калі гора тваё такое вялікае, калі ты любіш нашу зямлю, я табе мушу дапамагчы і дапамагу. Трымай Бліскучую рыдлёўку!!! Праз тры дні і тры ночы пойдзеш на могілкі і адкапаеш жонку!» — Мужчына нават угледзець не ўгледзеў, куды і як прапаў стары гаспадар. Праз тры дні і тры ночы новы ўладар Бліскучай рыдлёўкі пайшоў на могілкі, адкапаў нябожчыцу, а тая ажыла. Муж хацеў быў паказаць жонцы чароўную Бліскучую рыдлёўку, але цудадзейнай рэчы нідзе не было. Колькі ні шукалі, так і не знайшлі.

## Фіялетавы Валасень і лысая жанчына

Жанчына пачала хутка лысець. За які тыдзень яна аблысела цалкам. Каб лы-

сеў мужчына, ён бы не так цяжка перажываў страту. Жанчына плакала, кідалася, куды толькі магла дакінуцца, і шукала сродкі ад аблысенння. Мужчыны да такой справы падыходзяць прасцей: «Валасы? Валасы і на срацы растуць! Нічога страшнага не здарыцца, калі на мужчынскай галаве крыху тых валасоў паменее ці зусім не стане!» Жанчына не супакойвалася, размовы пра валасы на чужых сраках яе не суцяшалі. Яна шукала і знайшла дарогу да Фіялетавага Валасня. Добрыя людзі сказалі, што, перапіхнуўшыся-пераштурхнуўшыся з Валаснём, яна верне сабе валасяную прыгажосць. Валасень быў страшыдлам. Фіялетавыя кучаравыя валасы на ім раслі паўсюль. Нават у роце і на языку была густая фіялетавая шчэць. Жанчына прынесла Валасню мех цыбулі, бо той вяртаў фрызуры менавіта за рэпчатую цыбулю. Лысуха паставіла мех у варэльні. Тут жа,

у непрыбранай варэльні Валасень насадзіў лысую жанчыну на свой гладкі і гарачы фіялетавы стамбур. Ён яшчэ не паспеў скончыць магічную гульню, а жанчына ўжо адчула, як у яе за вушамі пачалі прарастаць новыя валаскі. Аваласенне вярнулася да жанчыны цалкам. Па сто дзесяць разоў на дзень яна паглядала ў люстэрка на вернутую прыгажосць. Глядзела на сябе і млела ад шчасця.

## Белая бяроза
## і лётчыкава каханка

Лётчыку прысніўся сон-катастрофа. Снілася: самалёт чапляецца крылом за дрэва, падае, б'ецца аб зямлю, развальваецца на кавалкі і гарыць. Лётчык, зразумела, не паверыў у прарочасць пабачанага ў сне. Ён ведаў, што металічнае крыло лёгка ссячэ дрэва. Каб

гэты сон прысніўся гаспадару самалёта, усё магло быць інакш. Але сон-катастрофа прысніўся не таму чалавеку... Лётчык заняў сваё месца, гаспадар уладкаваўся ў скураным фатэлі, і яны паляцелі. Яны падляталі ўжо да кропкі прызначэння, калі высвятлілася: узлётна-пасадачная паласа шчыльна засланая густым туманам. Лётчык паспадзяваўся на свой досвед, а гаспадар — на свой авіялайнер. Спадзевы былі памылковыя. Самалёт зачапіўся крылом за Белую бярозу, завярнуўся, паляцеў на зямлю, грымнуўся, разваліўся і згарэў. Белая бяроза знішчыла вялізарны, поўны пасажыраў авіалайнер... Пра свой прарочы сон-катастрофу лётчык паспеў распавесці адно каханцы. Ёй не паверылі, бо ніхто і ведаць не ведаў, што ў лётчыка была нейкая там каханка, з якой ён раз на тыдзень спаў і бачыў прарочыя сны.

# Ненажэра і Папяровая лялька

Старая ненажэра паскардзілася пляменніку, што пачала есці, як не ў сябе. «Ем і ем, патупаю па кватэры і да лядоўні кіруюся! Вагу набіраю, і робіцца мне цяжка хадзіць... Каб ты што параіў ці зрабіў, бо мне да самае смерці трэба на сваіх нагах дайсці. Акром цябе, у мяне нікога няма, не магу я пасадзіць табе на шыю старую ў інвалідным вазку... Зробіш?» — «Зраблю!» — сказаў старой ненажэры пляменнік і сышоў. Толькі ён за дзверы, а ненажэра да лядоўні. Тут жалезны голас і загаварыў: «Стой! Толькі паспрабуй лядоўню адчыніць, я табе ўмомант ногі з дупы павыдзіраю!» Старая напалохалася, перачакала з паўгадзіны і зноўку да лядоўні прыкалывала. Жалезны голас аблаяў яе больш жорстка, а яшчэ паабяцаў, што не дасць старой глядзець тэлевізар, калі яна не пакіне

жэрці не ў час. Ён і сапраўды не даваў старой глядзець тэлевізар. Праўду кажучы, ён даваў ёй глядзець, але чуць яна нічога не чула, бо жалезны голас глушыў усе гукі. Ён перакрыкваў і тэлефон, і нават гуляць у Інтэрнэце замінаў. За кожным несанкцыяваным адкрыццём лядоўні ўсчынаўся лямант жалезнага голаса. Праз два тыдні лядоўня ў кватэры старой ненажэры адчынялася толькі паводле раскладу. Праз месяц старая пачала худнець ужо заўважна для чужога вока. Праз тры месяцы яна набыла нармальную, як на яе век, дык і выдатную форму. У чарговую сустрэчу з пляменнікам былая ненажэра папрасіла яго раскрыць таямніцу жалезнага голаса. Пляменнік дастаў з-за лядоўні Папяровую ляльку і папрасіў яе прадэманстраваць свае здольнасці. Маленькая Папяровая лялька сказала жалезным голасам: «Тут і казцы канец!»

## Мой-Мой, Два-Два, Тры-Тры

У адной жанчыны бало ажно тры мужчыны. Аднаго звалі Тры-Тры, бо ён выдатна цёр і цёрся аб жаночыя вабноты. Другога клікалі Два-Два, бо падвойваў усё і да ўсяго дадаваў. Трэцяга жанчына называла Мой-Мой, хоць і ведала, што ў Мой-Моя, акром яе, ёсць яшчэ дзве жанчыны. Два-Два таксама пазбягаў адзіноты і меў не толькі дзвюх жанчын, а і двух мужчын. Толькі Тры-Тры захоўваў інтымныя стасункі з адной-адзінай жанчынаю, бо ад прыроды быў класічным манагамам.

## Янусь і падземны пераход

Янусь быў заўсёднікам у менскіх барах. Зойдзе, возьме 50 грамаў, пасядзіць, перакінецца словам з барменам і пераходзіць у наступны бар да сваіх

чарговых 50-ці. У Януся была тэорыя, што першыя 50 бармен налівае не шкадуючы. Насамрэч бармен заўжды не далівае. Рука бармена не памыліцца і пра сваю кішэню не забудзе ніколі. Але Янусь верыў у першыя 50 грамаў і хадзіў з бара ў бар. Так ён і зайшоў у «Чорную архідэю». Чорны бар быў зусім маленечкі, калі не ведаеш, дык ніколі не знойдзеш... Ад дома-сядзібы Ваньковіча трэба прайсці каля дома Масонаў, а потым узняцца па завулку ў кірунку чэшскай амбасады, а там... На словах не растлумачыш. Пры нагодзе пакажу. У «Чорнай архідэі» Янусь здраджваў сваёй завядзёнцы і замаўляў не 50, а двойчы па 50. Не мог стрымацца, бо калі і ёсць у свеце «божая раса», дык гэта гарэлка ў чорным бары. У Януся ад 100 грамаў выраcталі крылы. Ён адчуваў сябе дэманам. Так Янусь адчуў сябе дэманам у навальнічны вечар. Ён выпіў сотку і пай-

шоў на бераг Свіслачы, дзе ладзіліся народныя танцы. Музыкі гралі, народ піў піва і танчыў. На горад насунулася навальніца, і грымнуў пярун. Сыпануў дождж. Народ разгубіўся, бо музыка сціхла. Надышло імгненне дэмана. Янусь крыкнуў, што трэба хавацца ў метро. Напалоханыя ахоўнікі станцыі «Няміга» пазачынялі дзверы. Народ пачаў душыцца ў падземным пераходзе. Людзі таптані людзей. Людзі валіліся на людзей. Людзі душылі людзей. З неба ліло. Маланкі асвятлялі натоўп іншасветным ззяннем. Дэман лунаў над натоўпам... Раніцай Януку моцна балела галава. Якраз тады я і сустрэў яго. Горад падлічваў ахвяры, а мы з Янусем пайшлі шукаць бар «Чорная архідэя». Мы абмінулі дом-сядзібу Ваньковіча, прайшлі паўз дом Масонаў, узняліся завулкам у бок чэшскай амбасады. Там мы спыніліся, бо Янусь паказаў на старую цагля-

нуюсцяну і сказаў: «Чорт-чорт-чорт, якога д’ябла? Учора тут былі дзверы. Яшчэ ўчора тут былі дзверы...»

## Ілля Волас і залатыя рэчы

Першае дзіва адбылося ў Іллі Воласа з залатой завушніцаю. Ішоў Ілля паўз канцэртную залу «Мінск» і знайшоў завушніцу, ды не простую, а каштоўную. Волас паклаў знаходку ў пушку з запалкамі. Прыйшоў дамоў і вырашыў узрадаваць жонку Анжэлу. Дастаў Ілля з кішэні пушку з завушніцаю і са словамі: «Глядзі, Анжаліка, што я сёння знайшоў!» — адчыніў пушку. А тамака замест залатой завушніцы ляжаў сухі чарвяк. Ілля яго праз павелічальнае шкло яшчэ тры гадзіны разглядаў. Чарвяк! І больш нічога. Жонка, вядома, не паверыла ў аповед пра залатую завушніцу. Таму, калі Ілля Волас знайшоў на вуліцы Камуністыч-

най залатую запінку для гальштука, жонцы выхваляцца не стаў. Праз тры дні ён асцярожна разгарнуў папяровую хустачку, у якую схаваў каштоўную знаходку, і жахнуўся, бо ў хустачцы зноў жа ляжаў сухі дажджавы чарвяк. Волас выкінуў сухога, нікому не патрэбнага, чорнага чарвяка ва ўнітаз, змыў ваду і выправіўся ў сквер Янкі Купалы. У скверы тым Ілля Волас намерваўся знайсці сухога чарвяка і прынесці яго дамоў. Ілля спадзяваўся, што здарыцца адваротнае дзіва — сухі дажджавы чарвяк перакінецца ў залатую рэч. Непадалёк ад фантана з голымі дзявулямі і знайшоўся чарвяк. Ён быў пяшчотна загорнуты ў мяккую сурвэтку і прынесены дамоў да Воласаў. Дзіва не атрымалася. Гэтым разам усё засталося ў межах звычайнасці. Дажджавы чарвяк як быў сухім чарвяком, так і застаўся і ў залатую рэч не перакінуўся.

# Цягнік-забойца<br>і ноч на Купалу

Цягнік пакутаваў ад вандалаў. Яны разбівалі шкло ў ягоных вокнах і дзвярах. Яны рэзалі ягоныя крэслы. Яны гадзілі ў прыбіральнях, знарок спраўлялі патрэбы міма ўнітазаў. Яны курылі і плявалі ў тамбурах. Яны крэмзалі нажамі і цвікамі на ягоных сценах. Вандалы зневажалі і абражалі электрацягнік... У ноч на Івана Купалу ён зрабіўся забойцам ды парэзаў і пакалечыў вандалаў. Яны ехалі з Мінска ў Вязынку, дзе ладзілася вялікае Купалле з вогнішчамі, спевамі ды купаннямі. Вандалы прыехалі на станцыю і вырашылі перабегчы пуці перад цягніком. Яны пабеглі, а ён паехаў. Вандалы спрабавалі павыскокваць на перон, але перон быў высокі і выскачыць не атрымалася. Вандалы скакалі, але не даскоквалі і падалі пад Цягнік-

забойцу. У фатальную Купальскую ноч на станцыі «Вязынка» загінула роўна трынаццаць вандалаў, а яшчэ сямнаццаць былі знявечаныя і засталіся непапраўнымі калекамі... На судзе вінаватымі назвалі вандалаў, якія самі падлезлі пад цягнік.

## Анёл і чыпсы

Анёл з лілеяю завітаў да Марыі. Кветка была цнатліва-белая, вялікая і густадухмяная. Марыя шчыра ўзрадавалася падарунку. А белакрылы госць спахмурнеў: «Марыя, ты мне казала, што не будзеш есці ў ложку салёныя чыпсы! А што мы бачым? Непрыбраны ложак і бялізна засыпаныя пакрышанымі чыпсамі...» Марыя шырока заўсміхалася і зноўку дала анёлу слова гонару, што не будзе жэрці ў ложку крохкія чыпсы.

## Жаданні і магчымасці

Мужчына пажадаў уставіць чэлес у похву. Жанчына пагаджалася на сэкс, але толькі ў выглядзе мінету. Мужчына настойваў і насоўваўся на жанчыну. Яна адхінулася ад яго. Ён прачнуўся. Расплюшчыў вочы, заплюшчыў іх і сказаў: «Добра, мінет!»

## Сны выпускніка Акадэміі

Выпускніку Акадэміі мастацтваў прысніўся сон, што ён не давучыўся і трэба неадкладна пайсці давучвацца. У тым сне выпускнік зноў-наноў паступіў у Акадэмію і лёгка правучыўся другі тэрмін. Калі ён чарговы раз стаў выпускніком, яму зноўку прысніўся сон, што ён нечага не дабраў падчас чарговага навучання ў Акадэміі. Давялося паступаць і вучыцца па новым коле. Такі кругазва-

рот адбываўся ў сне выпускніка Акадэміі мастацтваў, а ў рэчаіснасці ён проста памёр. Ён памёр ціха і спакойна. Памёр у сне.

## Каханак, вясёлка і пара Q

Горад накрыла навальніца. Неба ліло, маланкавілася і грымоцілася. Тым часам у невялічкай кватэры спадароў Q ладзіліся любошчы. Спадарыня Q падстаўлялася свайму каханку. Яна і падлазіла пад яго, яна і залазіла на яго, яна з ім і бокам, і тварам, і ракам. Яны налюбошчыліся да знямогі і знямення. Яны налюбіліся так, што здавалася — ні рукой, ні нагой, ні чэлесам варухнуць ужо ніколі не змогуць. Тут і вярнуўся і зайшоў у сваю маленечкую кватэру спадар Q — між іншага, законны муж спадарыні Q. Зайшоў і пабачыў аголеных — жонку з каханкам. Спадар-гаспадар пабег у варэльню па

сякеру, каб засекчы і пасекчы на крывавыя кавалкі жонку-здрадніцу ды маладога палюбоўніка. А тыя як былі голыя, так голыя і кінуліся на гаўбец. Паслянавальнічны горад сустрэў іх сонечнай бліскучасцю і вялізнай, на ўсё неба, вясёлкаю. Каханак з каханкаю пабеглі па вясёлцы, як па мосце. Яны забеглі на самую яе вяршыню, калі спадарыня Q паслізнулася і паляцела з вясёлкі на свежазаасфальтаваную дарогу. Спадарыня Q мусіла разбіцца, і яна разбілася б насмерць, каб не яе надзейны муж. Спадар Q кінуў на асфальт сякеру, якой меўся пазабіваць палюбоўнікаў, і злавіў на рукі голую жонку. Ён узрадаваўся таму, што ўдалося ўратаваць жанчыну, і дараваў ім усё.

## Лепшы свет

Жылі-былі ў Чыжоўцы баба з дзедам і сынам. Баба з дзедам былі пенсіянера-

мі, а сын працаваў настаўнікам. Прыйшоў час паміраць дзеду і бабе. Каб сыну было крыху лягчэй перажыць развітанне з бацькамі, яны нанялі яму кватэру ў Серабранцы. Старыя спадзяваліся, што іх сын засумуе ад халоднай адзіноты і знойдзе сабе цёплую жанчыну. Тая жанчына народзіць ад яго дзіця, і жыццё іх тутэйшай гарачай паплыве далей у правільным кірунку. Сын і засумаваў, але жанчына не знайшлася. Ён шукаў, але той патрэбнай і адзінай знайсці не паспеў. Першым у іх маленькай сям'і, памёр дзед. Яму стала дрэнна з сэрцам, і старога забралі ў бальніцу. Праз тры тыдні ён у той бальніцы і сканаў. Баба памерла дома. Позна ўвечары разам з сынам яна паела малочнага супу — забеленай грэчкі, легла ў ложак і не прачнулася. Пасля сыходу бацькоў сын іх дужа замаркоціўся. Так моцна зажурыўся, што пайшоў на могілкі і пачаў

прасіць, каб нябожчыкі забралі яго з сабою. Дзед і баба ўсталі з магіл і павялі свайго адзінага сына ў лепшы свет.

## Белы білет

«Ён можа трупнуць табе малатком па галаве, і яму за гэта нічога не будзе!» — «Чаму?» — «Бо ў яго ёсць Белы білет!» — «Што за білет?» — «Белы білет выдаюць у дурдоме. З такім білетам можна рабіць што заўгодна... Хочаш такі?» — «Не!» — «Чаму?» — «А я нікога не збіраюся біць малатком па галаве!»

## Заспіртаваныя пальцы

Малады чалавек нёс праз прывакзальную плошчу два празрыстыя слоікі з заспіртаванымі чалавечымі пальцамі. Падумалася: так і д’ябал носіць у высокім слоіку заспіртаваную душу.

## Міхась і зларадпасць

Міхась ужо стаяў трыма нагамі ў магіле, а ўсё яшчэ выклікаў у людзях крываротую і вузкавокую зларадпасць.

## Вядзьмарка і тоўстая вяроўка

Мастак намаляваў прывязаную да слупа Вядзьмарку. Малюнак ён павесіў на сваім сайце. Адзін каментатар пачаў пісаць лісты, каб ён неадкладна развязаў тоўстую вяроўку і выпусціў пакутніцу. Стваральнік вобраза пакутніцы спрабаваў патлумачыць каментатару-пісаку, што Вядзьмарку лепей спаліць на плошчы, чым выпусціць на волю. Глядач не супакойваўся і патрабаваў для намалёванай Вядзьмаркі неадкладнага вызвалення. Мастак зрабіў варыянт малюнка з развязанай Вядзьмаркаю. Ён

паказаў яго праз скайп толькі аднаму — настойліваму патрабавальніку свабоды. Той узрадаваўся, але радасць ягоная была кароткай. Вядзьмарка ажыла, вылезла з манітора ў кватэру патрабавальнага гледача і тоўстай вяроўкаю задушыла змагара за свабоду. Што адбылося з Вядзьмаркаю далей? Ніхто не ведае... У сеціве яна нешта не прамалёўваецца.

## Залатакрылы Ліставей

У самай залатой сярэдзіне кастрычніка ў нашых лясах ды парках можна ўбачыць Ліставея. Ён залатакрылы, залатахвосты, залатадзюбы і залатавокі. Ліставей лётае ў залатых шатах клёнаў, каштанаў ды дубоў і абтрасае на зямлю залацістую лістоту. Праляціць Ліставей па каштанавай алеі і пад кожным дрэвам пакіне залатую азярынку

з духмянай лістоты. Раніцай вельмі радасна на такую алею паглядзець. Вока цешыцца. Убачыўшы Ліставея, можна што-небудзь у яго запытацца. Залатавокі Ліставей — самая мудрая птушка на свеце. Ён ведае адказы на ўсе пытанні. Колькі ёсць пытанняў на белым свеце, столькі ёсць адказаў у залатадзюбага Ліставея. Некалькі разоў я бачыў Ліставея, але саромеўся задаць яму загадзя падрыхтаваныя пытанні... Колькі пражыву? Колькі будзе ў мяне дзяцей? Колькі ўнукаў і праўнукаў з праўнучкамі? Калі я бачыў Ліставея, я толькі любаваўся ім. Маўчаў і любаваўся залатымі крыламі, залатым хвастом і залатымі кіпцямі на залатых лапках. Ён глядзеў на мяне круглым вокам і чытаў мяне. Ён чытаў мяне, як танюткі школьны сшытак. Нічога цікавага ў тым сшытку, спрэс спісаным гісторыямі пра мой лёс, не было. Ну, хіба

што тое, як моцна я люблю есці жоўтыя салодкія грушы, але ты пра гэта даўным-даўно ведаеш.

## Хлопчык і «А-у»

Хлопчык застаўся ў кватэры адзін. Маці з бацькам пайшлі ў краму па свежы хлеб на вячэру. Хлопчык дастаў з хованкі скарбонку і ўзяўся пералічваць свае грошы. У кватэры было ціха-ціха. У густой, як вясковае малако, цішыні нехта выразна сказаў: «А-у». Хлопчык спалохаўся, сабраў грошы ў скарбонку, скарбонку засунуў у хованку, сам залез за канапу і сцішыўся. Бацькі знайшлі сына за канапаю. Ён тамака спаў седзячы. На пытанне: «Чаму ты спіш седзячы за канапаю?» хлопчык распавёў пра пачутае «А-у». Бацька сказаў, што гэта грошы сказалі хлопчыку «А-у». Маці запэўнівала, што «А-у» сказала хлопчыку скарбонка. Сям’я

добра павячэрала. Хлеб быў свежы, яшчэ цёплы і вельмі смачны. Пасля вячэры ўсе хвілінку пасядзелі за сталом у густой, як сапраўднае малако, цішыні. Спадзяваліся пачуць загадкавае «А-у». Не пачулі. Ні ў той вечар, ні пазней.

## Настаўнік і сон

Ён ніколі не спаў. Настаўнік матэматыкі Алесь Станіслававіч Корань калі і клаўся ў ложак, дык толькі каб гадзіну-другую паляжаць-падумаць. Сон прапаў яшчэ ў маладосці, калі Алесю Кораню было толькі дваццаць два. Кораню прарочылі кар'еру сусветнавядомага матэматыка. Самыя цяжкія задачы ён лузаў адну за другой, як арэхі. Ён ушчыльную падабраўся да рашэння адной найскладанейшай задачы, калі сон прапаў. Алесь прачнуўся пасярод ночы і больш не змог заснуць. Ён спа-

дзяваўся, што сон хутка вернецца. Ён верыў, што стоміцца, зняможыцца, змэнчыцца, змучыцца і засне. Корань стамляўся іператамляўся, клаўся ў ложак і заплюшчваў вочы, але сон не ішоў. Дактары дапамагчы не маглі. Корань адмовіўся ад іхняй дапамогі, схлусіў пра частковае вяртанне сну, лекары адступіліся. Кар’еру матэматыка Алесь Станіслававіч закінуў і пайшоў настаўнічаць у звычайную школу. Раніцай выкладаў, удзень займаўся рэпетытарствам, увечары правяраў сшыткі, а ўночы запойна чытаў рамантычную паэзію. Апошнія свае гады Алесь Станіслававіч Корань пачаў крыху выпіваць. Ён выпіваў, але не п’янеў. Ён выпіваў дзеля шчырасці ў размовах з сабутэльнікамі. Корань жыў хутка. Ён хутка пражыў сваё бяссоннае настаўніцкае жыццё і памёр у сорак дзевяць гадоў. Вучні плакалі.

## Шэры мех

У горадзе з’явіўся Шэры мех. Ён паглынаў смярдзючых людзей. Пайшла пагалоска, што Шэры мех глынае смуродлівых. Праз тыдзень у горадзе зніклі людзі з дурным духам. Некага паглынуў Шэры мех. А нехта са смярдзючых пачаў мыцца, чысціць зубы і перастаў псаваць сталічнае паветра.

## Жаўтазубы хлопчык

Ён быў добры. Увесь час усміхаўся. Ён усміхаўся шырока, так шырока, што паказваў усе свае жоўтыя, як літоўскі бурштын, зубы. Паказваючы зубы, хлопчык дэманстраваў уласны шкілет. Ён паказваў сваю шчырую адкрытасць усяму свету. Безабароннасць была навідавоку. Але людзям было непрыемна глядзець на бурштынавыя зубы. Людзі

адварочваліся ад усмешлівага хлопчыка. Ён павінен быў адчуць дыскамфорт, у які трапляюць сузіральнікі жоўтых зубоў. Не адчуў. Працягваў лыбіцца і зазіраць у чужыя вочы... Яго знайшлі мёртвым. Нейкая сволач зарэзала Жаўтазубага хлопчыка. Сволач шукалі, але ўсё яшчэ не знайшлі. Шукаюць. Некалі знойдуць.

## Яна і я

Яна: «Добра, што ў мяне ёсць похва. Дзякуючы ёй, магу зрабіць процьму спраў!» Я: «Яна ў цябе з сабою?»

## Птушкі і Дамавік

Мяне перасталі баяцца пташкі — сініцы і вераб'і. Яно і зразумела, я іх штораніцы кармлю чорнымі семкамі. Толькі з ложка ўстану, а яны ўжо на

падваконне лятуць, у пакой зазіраюць, чакаюць пачастунак-сняданак. З пташкамі ўсё ясна... А чаму мяне перастаў баяцца Дамавік? Раней ён ніколі пад нагамі не круціўся. Хаваўся, прытойваўся, маўчаў. Цяпер бессаромна бегае па кватэры ў светлых пакоях ды калідорах. Бегае так, нібыта мяне і няма. Дамавік цалкам згубіў сорам? Ці, дзякуючы пташкам, я стаў бліжэй да прыроды, бліжэй да розных істот, кшталту Дамавіка? Незразумела...

## Ху-у-ух

Жыў мужчына з жанчынаю. Быў у іх вялікі ложак. Аднойчы яны ляжалі ў тым ложку і... «Даўно збіралася спытаць...» — пачала размову жанчына. «Спытай», — падтрымаў размову яе мужчына. «Можа мне толькі падаецца...» — «Можа і падаецца!» — «Не перапыняй!» — «Маў-

чу-маўчу-маўчу!» — «Маўчы, бо зараз вазьму падушку і задаўлю!» — «Вазьмі...» — «І вазьму... Во! Што гэта ў нас тут?» — «А ты думала... Цяпер можаш пытацца...» — «Буду трымаць яго ў руках і пытацца. Пяшчотна так буду трымаць яго ў руцэ. Табе падабаецца, як я пяшчотна трымаю яго ў сваёй руцэ?» — «Падабаецца. Пытай!» — «Чаму ты ніколі не прыстаеш да афіцыянтак?» — «Што?» — мужчына праўдзіва здзівіўся. «Да афіцыянтак ты не прыстаеш. Ні ў кавярнях, ні ў рэстарацыях... Усе мужыкі прыстаюць, а ты не прыстаеш. Чаму?» — «Не хачу пра гэта ў ложку гаварыць». — «Выбачай. Што з ім?» — гэтым разам праўдзіва здзівілася жанчына. «Нічога!» — «Як гэта нічога? Толькі што ён быў гатовы ўвайсці ў мяне. Я ледзь стрымлівала яго дзвюма рукамі. А цяпер? Ты паглядзі... Ён звяў, змарнеў, памёр!» — «Правільна. Ён у мяне не

любіць слова “афіцыянткі”. Ты прамовіла “афіцыянткі”, а ён пакрыўдзіўся». — «Значыць, ёсць прычына крыўдзіцца і марнець. Безнагодна так хутка не ападаюць. З якой такой нагоды ён звяў ад простага слова “афіцыянткі”...» — «Не скажу!» — мужчына адвярнуўся ад жанчыны. «Ну, скажы... Ну, я вас прашу...» — жанчына навалілася на мужчыну. «Ты яго папрасі!» — «Я і яго папрашу. Я ж сказала, я вас прашу, вас абодвух. Ты ж ведаеш, я і ў мёртвага падыму. Я яго пагладжу, папешчу, пацалую... Ён ажыве. Ён ажывае. Я больш ніколі не стану гаварыць у ложку паскуднае слова на літару “а”. Ён мне верыць і ўстае. Ён устане, і мы яго накіруем у патрэбнае месца. Мы яго накіруем у самае-самае-самае патрэбнае-патрэбнае месца. Яму там будзе добра. Яму добра?» — «Добра». — «Яму выдатна?» — «Выдатна». — «Зараз яму стане

зусім-зу-сім-зу-сім до-бра! Яму бу-дзе выдатна-выда-тна-вы-дат-на...» — «Ху-у-ух!» — прагучала над шырокім ложкам. «Гэта ты сказаў?» — спытала жанчына. «Што я сказаў?» —перапытаў мужчына ў сваёй жанчыны. «Ты сказаў “ху-у-ух”?» — «Не я». — «Хто?» — «Мы! Мы з табой разам сказалі “ху-у-ух”...» — «Разам?» — «Так!» — «Цяпер ты мне ўсё раскажаш пра сваіх афіцыянтак». — «Добра! Слухай! Я працаваў на рэстаўрацыі касцёла і жыў у гатэлі. Снедаць і вячэраць даводзілася ў рэстарацыі. Афіцыянткі любілі маладых сталічных рэстаўратараў. Асабліва моцна нас усіх любіла адна блакітнавокая афіцыянтка. Яна так моцна ўсіх любіла, што нават спала з адным з нас. Яна спала з Аляксандрам. Афіцыянтка спала толькі з адным рэстаўратарам, але добра карміла нас усіх. Праз два месяцы мы вярнуліся ў сталіцу, а яшчэ праз два

тыдні зноўку прыехалі на рэстаўрацыю правінцыйнага касцёла. Мы прыйшлі ў рэстарацыю “Віхра” са спадзевамі пабачыць нашу блакітнавокую афіцыянтку. Яе не было. Нам казалі, што яна захварэла і паехала ў Магілёў. Усе нашы павячэралі і сышлі, а я застаўся сядзець за рэстарацыйным сталом. Была мая чарга плаціць за вячэру. Я сядзеў і чакаў рэшты, калі да мяне падышла сяброўка нашай улюбёнай афіцыянткі. Сяброўка сказала, што ў блакітнавокай на медаглядзе знайшлі пранцы! Давялося пахваляваца. Асабліва перажываў Аляксандр. У яго пранцаў не знайшлі. Шукаць шукалі, але знайсці не знайшлі. З таго часу я не вельмі люблю слова “афіцыянткі”...» — мужчына ўздыхнуў з палёгкаю. «Не толькі ты не любіш слова “афіцыянткі”, ён таксама не любіць». Пасля гэтага расповеду ні мужчына, ні жанчына ні

разу не казалі ў сваім вялікім ложку кепскае слова на літару «а». Але яны шматкроць чулі доўгае «Ху-у-ух!»

## Шэры забойца

У хуткім цягніку «Мінск-Масква» ехалі ў адным купэ шэравокі мужчына, шэравокая жанчына і два хлопцы-студэнты. Аднакупэйнікі пілі гарбату, елі печыва і размаўлялі... «Мая бабуля была чараўніцай. Так расказвалі сваякі. Калі я спрабавала нарадзіцца, дык ні ў мяне, ні ў маёй маці не ставала моцы... Маці, як ні напіналася, не магла мяне нарадзіць. А я, колькі ні напружвалася, нарадзіцца не магла. Прапакутвалі мы цэлыя суткі. Тады мая бабуля-чараўніца перадала ўсе свае сілы мне. Калі я нарадзілася, бабуля мая памерла, у тое самае імгненне. Сваякі так расказвалі...» — «Нешта вы не тое гаворыце!» —

сказаў адзін хлопец. «Глупстваў нейкіх панавярзлі... І думаеце, мы вам паверым?» — падхапіў другі хлопец. «Не верыце?» — спакойна перапытала ўнучка чараўніцы. «Не верым!» — у адзін голас адказалі студэнты. «Тады зробім так...» — сказала шэравокая і прыўзнялася з-за стала. Яна нахілілся ў бок хлопцаў і плюнула. Адзін плявок патрапіў у твар аднаму абуранаму студэнту, другі — другому. Такім чынам шэравокая жанчына пазабівала хлопцаў. Зрабіўшы зло, яна звярнулася да шэравокага мужчыны: «Ведаю: ты — Шэры забойца. Павыкідай трупы дурняў у вакно. За работу я табе добра заплачу...» Забойца выкінуў трупы. Калі ён зачыніў вакно, у купэ нікога, акром яго, ужо не было, а на стале, побач са шклянкамі недапітай гарбаты, ляжалі ружавата-бэзавыя пяцьсот еўра.

## Цёмная раніца

Раніцай яны прачнуліся разам. Ён і яна любілі адно аднаго і прачнуліся разам у адной труне. Яны доўна грукалі, доўга стукалі, доўга шкрэбліся, ды ўсё марна.

## Чорны арэх і Чорнае наканаванне

Жыла-была ў таты з мамаю дзяўчына-прыгажуня. Клікалі яе Вольгаю. Аднаго разу павялі бацькі сваю прыгажуню ў батанічны сад. Там яны палюбаваліся лебядзіным возерам і пакармілі арэхамі прыручаных вавёрак. Ні тата, ні мама не бачылі, як да дзяўчыны падбегла шэрая ліса і пачаставала Вольгу Чорным арэхам. Пачастунак быў смачны. Вольга распавяла бацькам пра ласунак-пачастунак, але ёй не паверылі. Дарма!

З таго дня пачала прыгажуня хварэць. Дзяўчыне падавалася, што з яе цела выходзіць іншая дзяўчына — чорная, як зямля. Тую Чорную дзяўчыну ніхто, акром самой Вольгі, не бачыў. У люстэрках яна не адбівалася. Слізгацела па сценах і рэчах, як цень. Але Чорная дзяўчына не была ценем, бо ўмела нашэптваць загады. Яна і загадала Вользе ўзяць малаток ды паразбіваць у кватэры ўсе разеткі з выключальнікамі. Яна пераканала дзяўчыну ў тым, што ад электрычнасці сыходзяць адны непрыемнасці. Тая паверыла і паразбівала малатком не толькі выключальнікі ды разеткі, а і ўсе электрапрыборы. Пацярпелі тэлевізар з кампутарам, паразляцеліся на кавалачкі тэлефоны, пакарабацілася лядоўня, пабіліся лямпы і лямпачкі... У кватэры адбыўся натуральны пагром. Бацькі распыталі дачку пра здарэнне і даведаліся пра Чорную дзяўчы-

ну. Уся сям'я пачала змагацца з нячыстай сілаю, што ўцялеснілася ў вобраз Чорнай дзяўчыны. Вольгу вадзілі да розных святароў і да шаптух з чараўніцамі. Яна піла святую ваду і ела святы хлеб. Пасля некаторых працэдураў Чорная дзяўчына не аказвалася па цэлым тыдні, але пазней зноўку выходзіла з Вольгі і нашэптвала вандальныя загады. Бацькам давялося здаць дачушку ў вар'ятню. Там яна тры тыдні праляжала прыкутай да ложка і вылекавалася. Вольга распавядала, што Чорная дзяўчына напрыканцы трэцяга тыдня выйшла з яе і зайшла ў медсястру. Сястра перапужалася так, што выбегла на дах бальніцы, скочыла з яго і разбілася. Чорная дзяўчына вылецела з нябожчыцы, прыляцела да Вольгі і развіталася з ёй назаўжды, сказаўшы, што Чорнае наканаванне здзейснілася. Бацькам і лекарам такое вытлумачэнне падзеяў

мала што дало, але дзяўчына-прыгажуня ачуняла, чым усіх моцна пацешыла.

## Белае вядро

Наша вёска Варакомшчына як стаяла, так і стаіць каля самай дарогі. Колькі па той дарозе ўсяго прайшло, праехала, пракацілася... Ніхто не палічыць. Хто толькі ні кіраваўся з Польшчы ў Расею ды з Расеі ў Польшчу... Ніхто ўсіх не назаве і не ўзгадае. Гісторыя, якую распавядала варакомская баба Хвядора пра свайго дзеда Хведара, якраз і знітаваная з нашай дарогаю, з нашай пыльнай дарогайрэчкаю, што цячэ адразу ў два бакі... Прачнулася баба пасярод ночы, а дзеда ў хаце няма. Не знайшла яна свайго Хведара і на падворку. Выйшла на вуліцу і пабачыла, што дзед Хведар ляжыць, асветлены поўняю, упоперак дарогі ды храпе. Разбудзіла Хвядора Хведара і пы-

таецца: «Чаго ты, дзед, лёг спаць пасярод дарогі?» — «Як толькі мы з табою заснулі, пастукалі ў наша вакно чужыя мужчыны. Папрасілі вядро, каб набраць вады і занесці на дарогу, дзе стаяла іхняя машына. Я ўзяў наша Белае вядро, выйшаў з хаты і правёў мужчын на дарогу. Яны залілі ваду ў машыну, вярнулі пустое вядро і паехалі ў бок Наваградка. Я застаўся на дарозе з пустым Белым вядром. Больш нічога не памятаю... Хвядора, а ты тутака Белага вядра не бачыла?» Старыя пашукалі вядро, але знайшлі яго, вярнуўшыся ў хату. Яно, поўнае да самых краёў калодзежнай вады, стаяла на сваім заўсёдным месцы — на зэдліку каля печы.

## Мэр і дэтэкты ў Вярнідуб

Малады наркаман Вадзім Зелянко спакусіў дачку мінскага мэра — Алу. Ён падсадзіў яе на какаін і звёз у невядомым

кірунку. На мабільнік мэра ад зніклай дачкі прыйшла эсэмэска — ratujcje. Мэр запанікаваў, пачаў названьваць знаёмым міліцыянтам ды крымінальнікам. Ніхто з іх пра зніклую нічога не ведаў. Большасць абзвоненых раіла панікёру звярнуцца да прыватнага дэтэктыва Вярнідуба. Кірыла Вярнідуб выслухаў мэра і адмовіўся шукаць наркаманку. Мэр і прасіў, і пагражаў, і спакушаў грашыма, але згоды ў дэтэктыва не атрымаў. Мэрава жонка гэтаксама не змагла дамовіцца з Вярнідубам. Толькі малодшы брат Алы шчырым плачам расчуліў Кірылу. Той выправіўся на пошукі. Сляды прывялі дэтэктыва ў Кіеў. Там ён і адшукаў палонніцу. Там ён, вызваляючы Алу, уступіў у двубой з Вадзімам Зелянко. Бандыт загінуў на месцы. Дэтэктыў быў цяжка паранены. На самалёце Кірылу і Алу даставілі з Украіны ў Беларусь. Калі дэтэктыва клалі ў шпіталь, ён папрасіў лека-

раў, каб не пускалі да яго жанчын. Лекары паабяцалі, але абяцанні свае не выканалі. Яны папросту не ўспрынялі маці Кірылы Вярнідуба як жанчыну і пусцілі яе да цяжкапараненага. Яна толькі ўвайшла, толькі глянула на сына, толькі дакранулася рукою да ягонай рукі, як той і памёр. Ні мэр з жонкаю, ні іх дачка з братам на пахаванне дэтэктыва Вярнідуба не прыйшлі.

## Святая Ёлка

Толькі елка, пастаўленая і прыбраная на Новы год, называецца ў нас ёлкай. Толькі найгалоўнейшая ёлка, што стаіць на лядовым пляцы ў самым цэнтры нашай белай і чыстай краіны, завецца Святой Ёлкаю. Дзесяць гадоў пасля абвяшчэння яе Святой вялікая Ёлка прастаяла спакойна, а на адзінаццаты год па сталіцы папаўзлі чуткі пра цудадзей-

насць ігліцы. Калі на Каляды пасярод ночы адшчыкнуць ад Святой Ёлкі зялёную іглінку, закінуць яе ў рот, разжаваць, а перад тым, як праглынуць, узгадаць самае сваё запаветнае жаданне, дык тое тваё жаданне неўзабаве і спраўдзіцца. Мана, не мана? Жарт, не жарт? Праўда, не праўда? А народ напярэдадні Калядаў пайшоў да Святой Ёлкі. Нехта паверыў, нехта вырашыў паглядзець на тых, хто верыць у цуд, а нехта пайшоў ахоўваць парадак... У калядны вечар народу вакол Святой Ёлкі назбіралася процьма. Ахоўнікі парадку паспрабавалі не пусціць людзей да Святой Ёлкі, але сілы былі няроўныя. Народ растаптаў ахоўнікаў, зламаў і зжаваў святое дрэва... Людзі ішлі па людзях. Кожны дбаў пра сваё жаданне. Кожны песціў адно сваю запаветную мару. Кожны змагаўся за самога сябе і сваё персанальнае шчасце. Неразумнасць, жорсткасць і гвалт здарыліся на лядовым пля-

цы. Усе былі вінаватыя, і вінаватых не было. Людзі жавалі ёлачныя іголкі і верылі ў патрэбнасць, важкасць і важнасць сваіх жаданняў. Працверазенне прыйшло толькі пад раніцу. Затаптаных развезлі па трупярнях. Параненых ды пакалечаных парасклададалі ў шпітальных палатах ды калідорах. Прыбіральшчыкі з прыбіральшчыцамі папрыбіралі смецце з лядовага пляца і залілі яго свежай вадою. Пляц заззяў у промнях ранішняга сонца. Ён заззяў так, нібыта нічога страшнага на ім і не здарылася. Краіна маўчала пра жахлівую ноч і з'едзеную Святую Ёлку. Наша чыстая і белая краіна маўчала так, нібыта набрала ў рот святой вады.

## Белая вяроўка і брус сала

Гэтую казку чулі і расказвалі ды пераказвалі ў самых розных кутках Беларусі. Я нагадаю варыянт, які пачуў за койда-

наўскім сталом са свежанінаю ад Віктара Мілько. У той дзень быў моцны мароз. Мужчыны закалолі, абсмалілі і абшкрэблі кабана да залацістай скуры. Жанчыны яго разабралі ды насмажылі сакавітай ды тлустай свежыны. Сям'я з гасцямі села, каб пачаставацца смажанымі скабкамі ды бліскуча-чорнай крывянкаю. Мужчыны ўзялі па поўнай чарцы куплёнай гарэлкі. Жанчыны пачаставаліся вішнёвай наліўкаю. Тады Віця Мілько і распавёў нам казку пра вісельніка... Жыў-быў мужык з бабаю. Пад Каляды закалолі яны кабанчыка. Абсмалілі яго і пачалі разбіраць у хлевушку. Разабралі. Параскладалі мяса ды сала па тазах ды місах. Стаміліся. Пайшлі ў хату выпіць ды закусіць. Баба насмажыла цэлую патэльню скабак. Селі яны на лаву, тут мужык і кажа: «Абрыдла мне гэтае свінчо! Глядзець на яго не магу! І есці смажаніну не буду! Зараз пайду ў хлевушок

і павешуся!» Зазлавала баба на мужыка, ускочыла з лавы, дастала з шафы новенькі маток белай вяроўкі, кінула на стол і закрычала: «Бяры вяроўку! Ідзі і задавіся!» Муж забраў вяроўку і сышоў, бразнуўшы дзвярыма. Жонка думала, што ён пастаіць на снезе, пакурыць, астудзіцца ды вернецца за стол. Пачакала баба хвілін з дзесяць і пайшла шукаць свайго мужыка, каб заміріцца з ім ды чарку за тое замірэнне выпіць. Зайшла баба ў хлевушок, а тамака вісіць над тазамі з мясам яе мужчына з высалапленым языком ды заплюшчанымі вачыма. Баба вылецела з хлевушка і паімчала на другі канец вуліцы па доктара. Можа паспее! Можа ўратуе чалавека! Можа... Тым часам на двор да сваякоў зайшла старая. Яна ўбачыла на снезе галаву заколатага кабана з калком у разяўленай пашчы. Пабачыла расхінутыя дзверы ў хлевушок. Паглядзела на цела свайго

зяця, што пагойдвалася на белай вяроўцы. Пастаяла, падумала, узяла з таза вялікі брус сала і пачала яго засоўваць пад кажух. Старая ўжо схавала сала пад кажухом, калі пачула голас свайго павешана зяця: «Пакладзі сала ў таз! Чуеш, чортава карга?» Старая так пераляклася, што сэрца яе парвалася ад перапалоху. Яна павалілася на зямлю мёртвая. Тут і заляцелі ў хлевушок доктар з бабаю. Доктар дапамог мужчыне вызваліцца з пятлі, якая трымала яго пад пахі. Дапамагчы старой, вядома ж, паспрабавалі, але ўратаваць ад смерці не змаглі. Брус сала, які дасталі з-пад кажуха, давялося выкінуць на сметнік, дзе яго хутка знайшлі і здзяўблі сарокі.

## Жоўты чамадан і анёл

У аэрапорце, калі прылятаеш, пачынаеш мітусіцца. Хутчэй бы дамоў. Чужы-

на абрыдла. Дарога надакучыла. Хапаеш з чорнай гумовай стужкі свой жоўты чамадан і бяжыш на таксоўку. Краем вока ты заўважыў, што чамадан пашарпалі. Ты нават пасылаеш праклён у бок аэрапортных грузчыкаў. Заходзіш дамоў. Адчыняеш чамадан і бачыш: ён — чужы. Больш за ўсё шкада падарункаў. Ты ж так доўга выбіраў бутэлечку дарагога віна. Дзесяць разоў схадзіў у сувенірную краму, пакуль не набыў анёла і званочак. Тут нейкія цукеркі з лікёрамі, нейкі каньяк у нязручнай, брыдкай, пузатай бутэльцы! Ты зачыняеш чужы, рыхтык твой, дарагі скураны чамадан. Выклікаеш таксоўку і едзеш у аэрапорт. Твой чамадан цябе дачакаўся. Падарункі на месцы. Бутэлька віна, шкляны званочак... Анёл? Анёла няма! Маленечкі залатагаловы драўляны анёл прапаў. Можна распачаць скандал, а можна... Ты едзеш дамоў, глядзіш праз вакно таксоўкі на

зімовы горад і бачыш на заснежанай райскай яблыні свайго залатагаловага анёла.

## Чорна-чорныя пяты

Ён і яна ляжаць пад сіняй коўдрай. Ён да яе: «Добра было б, каб ты мне зноў прыснілася!» Яна да яго: «Як?» — «Як чорная пляміна!» — «Чорная пляміна і больш нічога?» — «Не! Каб за гэтай чорнай плямінай, за чарнатою была ты ўся, уся белацелая. Я зайшоў бы ў чорную пляміну, прайшоў бы чарнату і цямрэчу, знайшоў бы цябе. Ты мусіш быць у чорных карункавых панчохах і станіку. Акром станіка і панчох, на табе нічога не павінна быць! Ты мне так і прыснілася сёння. Я ўзяў цябе на рукі і прачнуўся». — «Я табе прыснюся, зноў буду ў чорных карункавых панчохах з гладкімі чорна-чорнымі пятамі».

# Цёмны волас

Мужчына зашпіляў верхні гузік на чыстай кашулі, калі адчуў пад пальцамі волас. Ён акуратна, каб не парваць, выцягнуў волас з-пад гузіка і падышоў пад лямпачку, што на тонкім дроце звісала са столі. Мужчына пачаў разглядаць волас, той быў жончын, несумнеўна. Каб тое здарылася на сорак дзён раней, дык мужчына выкінуў бы волас у вядро са смеццем, нават не разглядаючы. Але гэта здарылася на саракавы дзень пасля аўтааварыі, у якой і загінула жонка. Мужчына сядзеў за стырном. Жонка ехала праваруч. Зіма. Галаледзіца. Цёмны вечар. Гара. Машыну панесла з гары. Лёд, як шкло. Легкавік вынесла на сустрэчную паласу. Кінула на мікрааўтобус. Кінула тым бокам, дзе сядзела жанчына. Яна загінула імгненна. Кіроўца вярнуўся ў свядомасць праз колькі гадзінаў. Праз пару тыдняў

яго выпусцілі з лякарні. Мужчына штодня хадзіў на могілкі, каб пастаяць над свежым капцом з праваслаўным крыжам. Ён са схіленай галавою стаяў каля крыжа і чакаў слёз. Іх не было сорак дзён. А тут, пад лямпачкаю, з цёмным воласам у сціснутым кулаку мужчына заплакаў. Каб яшчэ некалькі дзён не прыходзілі слёзы, дык мужчына і задавіўся б. Ён бы зрэзаў дрот з лямпачкаю, за крук пад столлю прывязаў бы вяроўку, зрабіў бы пятлю і, далібог, павесіўся б. Ды прыйшлі слёзы. Мужчына, укленчыўшы пад лямпачкаю, выплакаў самую горкую частку сваёй бяды, выплакаў самую пякучую частку свайго гора і застаўся жыць з Цёмным воласам, заціснутым у кулаку.

## Шчаслівае жыццё

«Каб у мяне была такая жонка, як ты, адрэзаў бы сабе чэлес!» — зароў мужчы-

на. «Каб у мяне быў муж, падобны да цябе, зашыла б сабе похву!» — заенчыла жанчына. Ён нажом адхапіў чэлес. Яна вялізнай іголкай зашыла похву. Яны пражылі шчаслівае жыццё; ён — без чэлеса, яна — з похваю, зашытай суровымі ніткамі. Шкада, шчасце было кароткае.

## Кароткая казка пра звычайных людзей

Яны жылі нядоўга ды кепска і памерлі ў розны час.

## Гняздо Чырвоных нутрый

У сутарэннях пад цукерачнай крамаю «Камуна», што знаходзіцца ў доме са шпілем, які стаіць на стромкім беразе Свіслачы, стары біёлаг абсталяваў лабараторыю. Тамака ён трымаў нутрый, якіх карміў выключна свежым мясам

скрадзеных і забітых дзяцей. Гаротных дзяцей навуковец краў не ў цэнтры сталіцы, а на ўскрайках: у Чыжоўцы, у Малінаўцы, у Курасоўшчыне... Шакаладнымі цукеркамі ён заманьваў хлопчыкаў і дзяўчатак — збольшага, вядома, дзяўчатак — да сябе ў машыну, дзе ўсыпляў іх атручаным шакаладам. Самлелае дзіця навуковец зацягваў у сутарэнні, дзе забіваў, спускаў з цельца кроў і разбіраў труп на мяса. Ад харчавання свежай чалавечынай поўсць на нутрыях парабілася пухнатай, бліскучай і чырвонай. Гэтымі Чырвонымі пацукамі-людажэрамі навуковец намерваўся знішчыць чалавека як такога. Людзей навуковец узненавідзеў яшчэ ў маладосці, калі служыў у войску, ваяваў у Афганістане і патрапіў у палон, дзе з яго неміласэрна здзекаваліся тамтэйшыя садысты. Палоннага салдата пашкадавала кульгавая вядзьмарка, яна і дапамагла яму ўцячы,

яна і распавяла пра Чырвоных нутрый-людажэраў, якія змогуць, калі іх правільна выгадаваць на чалавечыне, вынішчыць усіх людзей на зямлі. Яны б і вынішчылі, каб не грузчыкі з фірменнай крамы «Камуна». Прадавачкі пачалі скардзіцца грузчыкам на куслівых камароў, які лезуць з сутарэнняў, і ад тых камароў няма ніякага ратунку. Грузчыкі пайшлі ў сутарэнні, дзе нечакана для сябе пабачылі лабараторыю, у якой забівалі дзяцей і вырошчвалі нутрый-людажэраў. У гэтым гняздзе былі неглыбокія басейны з вадою, нешта накшталт лужын, бо нутрыя не можа жыць без вады, нават калі яна і пачала пераўвасабляцца ў пачварнага людажэра. У тых брудных лужынах і павыводзіліся куслівыя камары, якія так моцна даймалі прадавачак. Грузчыкі ледзь не да смерці збілі старога біёлага і пазабівалі ўсіх чыста Чырвоных нутрый-людажэраў.

## Чорна-сіні жудаснік і ключ

Жанчына прахапілася сярод ночы. Прыслухалася і пачула шоргат за ўваходнымі дзвярыма. Нехта шкрэб пазногцямі, а можа, і кіпцюрамі дзвярны замок. Жанчына накінула на голае цела халат і на дыбачках падышла да дзвярэй. Шкрабаценне ў замку сціхла. Жанчына прыклала вуха да дзвярэй пад «вочкам», і ў той жа момант нехта цяжка ўздыхнуў і застагнаў. Жанчына адхіснулася, пайшла ў кладоўку і вярнулася ў калідор з малатком. Праз хвіліну яна ўжо стаяла ў перадпакоі з сякеркай у руцэ. Але і невялічкая сякера, якую зазвычай выкарыстоўвалі для кулінарных спраў, падалася жанчыне залёгкай. Сякеру замяніў стары, яшчэ матчын, электрапрас. Такім калі каго жахнеш, дык адразу закрыеш тэму. Жанчына зірнула ў вочка, за ім калывалася сіня-чорная цемрадзь. З той

цямрэчы на самотную жанчыну і зірнулі вогненныя вочы Чорна-сіняга жудасніка. Менавіта такім вялізарным, калматым, вогненнавокім яна яго і ўяўляла. Жанчына расчыніла дзверы і абрынула прас на валасатую галаву. Жанчына была перакананая, што забівае пачвару. Яна нават бачыла, як Чорна-сіні жудаснік валіцца ёй пад ногі. Толькі праз якую хвілю жанчына ачомалася і пабачыла на падлозе забітага суседа. А ў ейным замку нахабна тырчаў чужы крыху пагнуты ключ.

## Чырвоная шклянка

Паэт кашляў. Ён ляжаў у ложку, уздрыгваў і несупынна пакашліваў. Ложак стаяў пад вакном, за якім былі светла-блакітнае неба ды цёмна-сіняе мора. Паэт глядзеў на супакоенае мора пад вясновым небам і кашляў. Каля ложка

стаяла дубовая тумбачка з кнігамі, графінам свежай вады і шклянкаю. Паэт узяў шклянку і выкашляў у яе кавалак сябе. Ён паставіў поўную да краёў Чырвоную шклянку на тумбачку, побач з графінам і кнігамі. Лёг на спіну і памёр. Паэт пакінуў вясновы свет. Чырвоная шклянка здрыганулася, і з яе выйшаў чырвоны д'ябал, просты чырвоны рагаты д'ябал, які зазвычай жыве ў паэце.

## Чортавы рогі

«Бойся рыжых і рэдказубых!» — пачуў мужчына і расплюшчыў вочы. Ён сядзеў у паўпустой вакзальнай залі. Побач стаяла ну проста Баба Яга. «Пайшла прэч, страхалюдзіна!» — прасіпеў вусаты мужчына ў глюганосы твар. Брыдкатварая баба не стала паўтараць папярэджанне пра рэдказубых і рыжых, а ціхенька пакульгала прэч. Мужчына за-

плюшчыў вочы, сабраўся быў згадаць летняе мора і белы карабель, як пачуў: «Дарагі, дай мне рубель на хлеб!» На месцы Бабы Ягі ўзвышаўся рыжабароды асілак з рэдкімі пракуранымі зубамі. Мужчына не стаў палемізаваць з асілкам, дастаў грашовую паперку і перадаў жабраку. Звычайнае апавяданне на гэткім счаслівым канцы і завяршаецца, але казка пра дарослых мела працяг. Рэдказубы рыжабародзік са сваёю Бабай Ягой набыў бутэльку мацаванага віна і збіраўся выпіць яе за сметніцай у прывакзальным двары. Рыжы пачаў адкаркоўваць пляшку, калі пабачыў мужчыну з чорнай кавенькай. Гэта быў той самы вусаты мужчына, якому жабракі перашкодзілі згадваць пра белы карабель і ціхае мора. Мужчына падышоў да волата і рэзнуў яму металічнай кавенькаю па галаве. Трыма ўдарамі волат быў забіты насмерць. Баба глядзела на збіццё свайго

вялікага таварыша моўчкі. Яна маўчала, пакуль не пабачыла, як твар забойцы спрэс пакрываецца чортавай поўсцю, а над скронямі вырастаюць бліскучыя Чортавы рогі. Баба абсікалася і тонень-ка, па-дзіцячы заенчыла. Чорт схапіў яе за транты, ускінуў у начное паветра і злавіў на вострыя рогі.

## Чырвоныя туфлікі

Жанна — тоўстая. Есць зашмат і раздзімаецца. Яна раздзьмулася так, што стала не проста сытай і тлустай, а зрабілася невераемна таўсценнай. Такой атлусцелай і раз’етай, нібыта нехта д’ябла-падобны засоўвае ёй у дупу гумовы шланг і надзімае. У таўстацелай Жанны раздзьмулася ўсё, нават мезенцы на нагах зрабіліся падобнымі да мясных шарыкаў. Большасць іншых жанчын не захацелі б жыць у такім шараабрысным

целе. Жанна ж любіць сваю цялесную свінскасць, яна ёю ганарыцца і з гонарам паўсюль дэманструе. Жанна была цалкам шчаслівая да таго моманту, пакуль не пабачыла ў абутковай краме чырвоныя туфлікі на трынаццацісантыметровых танюткіх абцасіках. Раптам высветлілася: у тлустабокай Жанне жыве жанчынка, якая прагне мець на нагах чырвоныя туфлі з танюткімі абцасамі. Тая жанчына і схапіла з паліцы туфлікі «на шпільках», абула іх і на адно імгненне падрасла не на нейкія там трынаццаць сантыметраў, а — да самай столі. Толькі ў наступнае імгненне Жанне давялося падаць, бо адзін абцас не вытрымаў цяжару, скрывіўся і адарваўся ад падэшвы. Таўстуха ажно заплакала ад крыўды і ад таго, што давялося плаціць за сапсаваную пару абутку. Румзаючы і выціраючы пачырванелы нос хустачкаю, Жанна сляпцом ішла па сталіцы.

Яна не памятала, як прайшла ад гандлёвага дома «На Нямізе» да цырка і апынулася пад мостам цераз Свіслач, дзе яе і пераняў чырванарогі ды чырванахвосты чорт-ліліпут. «Не плач, тоўстая Жанна! Не плач! Мне спадабалася тваё жаданне мець на тоўстых нагах вытанчаныя туфлі. Ты будзеш іх мець і радавацца таму, што маеш. Я вярну табе радасць жыцця... Ты вернешся ў гандлёвы дом і набудзеш новыя чырвоныя туфлі, у якіх... Ты ў іх не будзеш хадзіць, ты ў іх будзеш займацца сэксам. Акром чырвоных туфляў з высокімі абцасамі, на табе нічога не будзе... Бяжы, Жанна! Бяжы! А тваю душу я набуду іншым разам...»

## Сівы вядзьмак

«Калі ты ўжо здохнеш, сівы корч? Чуеш мяне, цемрашал нямоглы? Не! Ты мяне зусім не чуеш. Ты, вядзьмак нягег-

лы, даўно нічагуткі не чуеш. Ты амаль нічога не бачыш, але сядзіш цэлымі днямі каля вакна. Ты патыхаеш смерцю. Твой час на зямлі даўно скончыўся, а ты ніяк не сканаеш. Грахі на неба не пускаюць? Твае дзеці папаміралі і палеглі ў магільную цемру, а ты ўсё грэешся на сонцы. Калі ты, гад бязбожны, нарэшце памрэш, каб можна было праветрыць кватэру, каб можна было зрабіць у ёй рамонт і пажыць у чысціні, і пажыць тут без цябе?» — «Хай выпадуць у цябе зубы!» — прамармытаў Сівы вядзьмак. І зубы ва ўнучкі выпалі, усе як адзін.

## Празрыстая нітка

Па адной лесвіцы можна як падняцца, так і спусціцца; выдых там, дзе і ўдых; на працу і з працы ты зазвычай ходзіш па адной дарозе; але бываюць і выняткі. Пра выключнае здарэнне і распавяду...

Кілер свістаў. Ён па электроннай пошце атрымаў замову, адчыніў вакно і пачаў свістаць. Ён свістаў зусім ціха. Ён свістаў і высвістваў самога сябе ў Празрыстую нітку. Свіст аціх толькі тады, калі кілер цалкам ператварыўся ў нітку, а тая вылецела ў вакно. Празрыстая нітка праляцела над рэчкаю і пад мостам, абмінула Дом афіцэраў і Лялечны тэатр, заляцела ў ціхі, зарослы старымі ліпамі двор і сталася каля вакна на трэцім паверсе. За шклом, у вялікай кухні снедаў пракурор. Ён ужо дапіваў чорную каву, калі раптам адчуў задуху і папрасіў жонку адчыніць фортачку. Праз яе Празрыстая нітка заляцела ў кватэру, абвілася вакол тоўстай шыі і задушыла пракурора. Нітка забіла пракурора на вачах у ягонай жонкі, а тая падумала, што ў мужа парвалася сэрца. Выканаўшы замову, Празрыстая нітка праз свіст вярнулася ў чалавечае аблічча. Вяртанне адбылося ў ціхім,

засаджаным ліпамі двары. Дамоў кілер паехаў на метро.

## Рыжы чартагон
## і шкляны посуд

Рыжы гандляр арэндаваў бамбасховішча пад склад. Гандляваў ён шкляным посудам. Склад у цэнтры Мінска спрыяў справе. Усё ішло выдатна, ажно пакуль у бамбасховішчы не адбыўся пагром. Гандляр шукаў і не мог знайсці пагромшчыка, нават гіпатэтычна не здагадваўся, хто і як панабіў гару посуду. Ключы ад склада ў адным камплекце. Поўны камплект ключоў толькі ў гаспадара. Сам ён свой посуд не біў, здаецца. Тады хто? Мужчына так і спытаў у засмечанага шклянымі ашкалёпкамі бамбасховішча: «Хто?» Тут ён і пачуў адказ на ўсе пытанні: «Я!!!» Рыжыя валасы ўздыбурыліся на галаве анямелага гандляра.

З-за скрынак з-пад посуду выйшаў тоўсты чырвоны рагаты чорт з тонкім, як бізун, хвастом. «Я тут жыву сабе! Нікога не чапаю! Ціхаміруся, не раўнуючы як манах у Жыровічах. Не! Трэба ўсё скрынямі пазастаўляць. Мне тут і так мала месца было, а цяперака і зусім не павярнуцца. Я пабіў твой посуд! І яшчэ паб'ю, калі наважышся прывезці. Жаруць яны ўсё і жаруць. Ніяк не нажаруцца людзічалавечкі. І посуд купляюць і купляюць, ніяк не накупляюцца. Абрыдлі ненажэры!» Рыжы гандляр пераадолеў аняменне і раз'юшыўся: «Ты, рагасты ды капытасты, даўно са свайго пекла правінцыйнага вылез? Даўно з багны смярдзючай выпаўз? Дык я цябе хутка святым крыжам назад у вашае задушлівае пекла заганю! Зараз панавяду сюды папоў з манахамі, і яны хутка капыты твае паадбіваюць, рогі пааблмліваюць, і хвост — бізун твой тонкі надсрачны —

абарвуць!» Чорт страшэнна ўзрадаваўся, зарагатаў так, што бамбасховішча ажно затрэслася, і прапанаваў гандляру стаць Рыжым чартагонам. Чорт будзе залазіць у людзей-чалавечкаў, а Рыжы чартагон будзе яго з тых чалавечкаўлюдзей выганяць за вялікія грошы. Бізнес не маштабны, але на першы час заробкаў хапала. Пачаць вырашылі з жанчын. Чорт залазіў у якую жанчыну, і з той здаралася жудасная істэрыка. Апантаная баба ламала і біла ўсё навокал, крышыла ды рвала ўсё, што траплялася на дарозе. Тут і прыходзіў на дапамогу Рыжы чартагон з залатым крыжыкам. Чорт на вачах у публікі выскокваў з бабы і вылятаў праз шырока адчыненае вакно ў начное неба. Праз нейкі месяц чорту надакучыла залазіць у жанчын, і ён прыдумаў больш маштабны і, адпаведна, больш прыбытковы бізнес. Цяпер чорт захопліваў шматпавярхо-

вые дамы, якія толькі-толькі запоўніліся навасёламі. Чорт не даваў людзям спакойна жыць. Ён квахтаў за дзвярыма, стукаў у трубах, свістаў пасярод ночы ў прыбіральнях, смуродзіў на кухнях, бздзеў у ліфтах, а ў самы сон, пад раніцу, галасіў. Змучаныя навасёлы дзе толькі ні шукалі паратунку, а знаходзілі яго ў Рыжым крыжаносцы. Чартагон цэлы дзень рабіў выгляд, што выганяе свайго хвастатага сябрука, а ўночы яны сумленна дзялілі заробак напалам. Праз нейкі год чорту надакучыў і гэткі забаўляльны занятак. Рагаты прапанаваў Рыжаму вярнуцца ў гандаль шкляным посудам, а сам вырашыў адпачыць пару гадоў на возеры Свіцязь у зеленахвостай русалкі. Развітанне адзначалася ў адрапараваным бамбасховішчы з дзвюма некалі выратаванымі ад апантанасці ды істэрыі таўстапятымі бабамі.

## Доўгі шлях

Ішоў, ішоў, ішоў і прамінуў царства смерці.

## Сіняя гушкалка

Дзяўчына жыла ў раёне Залатой Горкі. Яе дом стаяў на месцы разрабаваных і разбураных могілак. Розныя чуткі хадзілі пра гэтае праклятае месца, але дзяўчына не верыла, ажно пакуль з ёю не здарылася страшная гісторыя. Аднойчы ў травеньскі цёплы вечар дзяўчына выйшла ў свой ціхі двор, села на сінюю гушкалку і залюбавалася бэзам. Водар ягоны быў моцны і п’янкі. Ад такога водару не грэх было і захмялець. Тым часам праз двор праходзіў юнак. Ён убачыў дзяўчыну на гушкалцы і крыху запаволіў хаду. «Пагушкай мяне!» — папрасіла яна. Хлопец пачаў ціхенька разгойдваць гушкалку. «Мацней

гайдай. Яшчэ мацней! Яшчэ...» Гушкалка разгойдвалася і разгойдвалася. Гайдалася мацней і мацней. Дзяўчына ўзлятала вышэй і вышэй, ажно пакуль не паляцела ў начное неба. Яна ўзляцела да яснай поўні, а потым упала ў рукі юнаку. Каханне-жаданне ахапіла дзяўчыну. Яна папрасіла, каб юнак авалодаў ёю. Тут, побач з сіняй гушкалкай, на траве, пад кустом белага бэзу юнак спазнаў цнатлівую дзяўчыну. Праз сем месяцаў з яе вырадзіўся сіні, не раўнуючы як тая гушкалка, чорт. Ён выкруціўся з рук акушэраў, сам сабе завязаў пупавіну і ўцёк. Тады стала ясна, што гэта д'ябал перакінуўся ў юнака і разгойдваў сінюю гушкалку на месцы разрабаваных ды пабураных могілак.

## Шляхі пераможцаў

Забіў маці і бацьку, забіў цара з роду Дхамападаў, знішчыў царства ягонае

разам з жыхарамі вялікі Яраслаў Рыгвед і далей ідзе спакойна... Забіў бацьку і маці, забіў караля з роду Рыгведаў, вынішчыў каралеўства ягонае разам з падданымі, упаляваў чалавека-зубра вялікі Славаяр Дхамапад і крочыць шляхам сваім спакойна...

## Рыжая распусніца

Самотны мужчына прысніў сабе Рыжую распусніцу. З той Рыжай мужчына пачаў гандлявацца. За невялікія грошы ён патрабаваў паўнавартасны мінет і традыцыйны перапіхон. За прапанаваныя грошы распусніца пагаджалася выключна на перапіхон. Мужчына разлаваўся так, што ад злосці прачнуўся. Прахапіўшыся, ён хуценька зноў заплюшчыў вочы і голасна сказаў: «Добра, Рыжая, мы будзем паважаць традыцыю. Адзін перапіхон!»

# Вада і гарэлка

Істоты, падобныя да смецця? Ёсць і такія. Нават сярод людзей трапляюцца. Такому кажаш: «Не п'ю!» А ён табе ў шклянку гарэлкі налівае, па самыя берагі. Ён налівае, а шклянка не перапаўняецца. Амаль цэлую паўлітровую бутэльку ён выліў у двухсотграмовую шклянку і не перапоўніў яе. Як так? Ты яму кажаш, каб пакаштаваў гарэлку. Робіцца глыток. У шклянцы вада! Натуральная вада. Звычайная. Ён думае, што ў цябе чароўная шклянка, бо ў ягонай бутэльцы на донцы па-ранейшаму гарэлка. Ён падсоўвае да мяне сваю бутэльку з гарэлкай, і тая робіцца вадою. Вось так, зачаравалі мяне, магу піць толькі ваду. Не верыць, правярае, пераправярае. Сапсаваў дзве бутэлькі гарэлкі; смецце, а не чалавек. Людзям трэба час ад часу верыць. Кажуць «за-ча-ра-ва-лі», значыцца, ёсць

падставы так казаць. Ці можна адчаравацца? Можна. Толькі тады ўся вада стане для мяне гарэлкаю.

## Чорны веер

Мужчына прахапіўся ад хвалі прахалоднага паветра. Апошнія тры тыдні ён кепска спаў. Засынаў імгненна, нібыта правальваўся ў бездань, а пасярод ночы прачынаўся і ляжаў на спіне з заплюшчанымі вачыма, ляжаў ледзь не да раніцы. На золку зноў засынаў на якую гадзіну. Гэтым разам ён выразна адчуў хваляванне паветра, таму і вочы расплюшчыў. Жонка-нябожчыца сядзела побач на ложку і абмахвала сваю доўгую белую шыю Чорным веерам. Мужчына сцяўся. Ён быў перакананы, што жонка загінула пад коламі электрычкі. Яна спусцілася на станцыю метро, дзе ўзарвалася бомба. Выбуховая хваля скінула жанчыну

з перона на рэйкі. Электрацягнік прайшоў праз станцыю, не спыняючыся. Ніякіх сумневаў у тым, што жонка загінула падчас тэрарыстычнай акцыі, мужчына не меў да таго моманту, пакуль не пабачыў яе на сваім ложку — цалкам голую, з Чорным веерам у белай-белай руцэ. Халоднае паветра прыемна авявала ўзмакрэлы твар... «Горача! Праўда? Мне ўвесь час горача. З таго самага моманту, як выбухнула пякельная машына, мне горача і горача! Я вырашыла вярнуцца і забраць Чорны веер. Як ты, мой каханы, разумееш, у труне кандыцыянеру няма. Таму я забіраю веер. Не сумуй тут без мяне. Завядзі сабе новую жонку і купі ёй белы веер...»

## Зялёны п'яніца

Зазвычай п'янтоса называюць Сіні. У чалавека, які доўгі час несупынна п'е,

нос, ды і ўвесь твар можа набыць маліна- вае, шызаватае, пурпуровае і нават сіняе адценне. Ёсць алкаголікі, у якіх увесь твар выглядае суцэльным сіняком. Зялё- ны п'яніца меў твар трупа, які самохаць уцёк з анатамічкі. Акром, як тварам, Зя- лёны запомніўся і літровай бутэлькаю гарэлкі. Такой бутэлькі ніхто нідзе ні раней, ні пазней не бачыў. Яна ззяла, як дыямент. Зялёны падыходзіў да вулі- чных п'янтосаў, даставаў з кішэні самаві- тую бутэльку і прапаноўваў пачаставац- ца з шырокага, як у графінаў, рыльца. Дармовае п'ецца лёгка. Толькі наступ- ствы пасля таго дармовага былі фаталь- ныя. Усе, каго пачаставаў Зялёны, аслеп- лі. Зрок свой яны страцілі незваротна. Гісторыя з аслеплымі набыла шырокую вядомасць пасля таго, як у Мінску ў адзін дзень міліцаі знайшлі ў розных раёнах ажно пяць аднолькава зарэзаных п'ян- тосаў. Таленавіты следчы хутка злавіў

забойцу. Той, каб не атрымаць смяротнага пакарання, адразу ж выдаў замоўцу. Кілера наняў сляпы гітарыст з рэстарацыі «Планета». Ад гітарыста публіка і даведалася пра злачынствы Зялёнага п'яніцы, які апойваў людзей атрутаю. Драматызм гэтай гісторыі з асляпленнямі і забойствамі яшчэ і ў тым, што наняты гітарыстам кілер быў дальтонік і не адрозніваў сіні ад зялёнага. Таму ў нашай сталіцы і загінула ажно пяцёра звычайных сінятварых п'янтосаў. Зялёны п'яніца, пасля тых шумных падзеяў, са сталіцы знік. Можа, ён цяпер у якім Наваградку ці Полацку зноў асляпляе прагных да выпіўкі ахламонаў, але я пра гэта дакладна не ведаю.

## Шэрая баба

Хто займаецца ў Мінску конкурсамі прыгажосці і моднай адзежаю, той ведае

страшную гісторыю пра Шэрую бабу. Некалі даўно, калі «Дом мод» мясціўся побач з дзяржаўным банкам, а не як цяпер, каля кінатэатра «Беларусь», у асяродку тутэйшых манікенніц завялася страшэнная зайздросніца. Яна па-чорнаму зайздросціла ўсім сваім каляжанкам. Высокім яна зайздросціла, бо вышэйшыя за яе. Доўгавалосым зайздросціла, бо ў іх доўгія валасы. Велікавокім зайздросціла за вочы... У кожным чалавеку яна знаходзіла нешта лепшае, чым у сябе, і налівалася лютай зайздрасцю. Муж зайздросніцы займаў высокую дзяржаўную пасаду. Праз мужа-чыноўніка яна і ціснула на канкурэнтак. Слабейшых расціскала зусім, і яны сыходзілі з «Дома». Невінаватых яна абвінавачвала ў спекуляцыі валютаю, золатам і каштоўнымі камянямі. Яна клеймавала іх мяном «распусніца». Яна і антысавецкую палітыку з антыдзяржаўнай дзейнасцю

ім прыпісвала ў сваіх незлічоных лістах-даносах. Манікенніцы ды й мадэльеры люта ўзненавідзелі паталагічную зайздросніцу, але прагнаць яе з «Дома» змаглі толькі праз дзесяць гадоў. Усе як адзін супрацоўнікі «Дома мод» па чарзе падышлі да злыдзейнай зайздросніцы і сказалі сучцы, што яна старая і мусіць сысці. Усе выкарысталі свае сувязі, а ў манікенніц іх шмат, і выкінулі гадзіну на сметнік. Тады ў выгнанніцы ад злосці пашарэў твар і яна перакінулася ў Шэрую бабу, якая ў маладзіковыя ночы плёхала прыгажуням у твары азотам. Яна плёхала вадкім азотам, але ў бясконцых пераказах гісторыі фігуравала кіслата. Як толькі над нашай сталіцаю ўзыходзіў малады месяц, Шэрая баба выходзіла на паляванне. Яна падпільноўвала загадзя высачаную прыгажуню і пырскала ёй у вочы азотам. Такім варварскім метадам Шэрая баба скалечыла тузін дзяўчатак.

Аднойчы баба прамахнулася. Дзяўчына была спрытнейшая за старую зайздросніцу. Яна адбеглася ад Шэрай бабы і ўсчала крык. Баба мусіла ўцякаць. Баба забегла ў бліжэйшы шматпавярховік, паднялася на апошні паверх і скочыла ў вакно. Шэрая баба разбілася насмерць. Яна сканала, яе пахавалі, але паданне пра зайздрасць Шэрай бабы засталося жыць у мінскім асяродку прыгожых дзяўчат.

## Пытанне і адказ

«Калі?» — «Калі ў цябе не будзе цябе, тады...»

## Белая жанчына

Сонца пякло неміласэрна. Нават у пакоі з жалюзі і шчыльнымі шторамі было горача. Жанчына пад мужчынам пачала

цекчы, плавіцца і расплывацца. Мужчына схапіў паўрасплаўленае цела і засунуў у лядоўню. Працэс расплывання спыніўся, але цяпер жанчына была крывабокай і криватварай. Давялося пакласці жанчыну пад сонца на падваконне і чакаць, пакуль тая зноўку пацячэ. Вадкую жаночую субстанцыю мужчына сабраў у вядро, а з вядра пераліў у гумовую форму, якую загадзя прынёс з сэкс-шопу. Гумовую сэкс-ляльку, напоўненую сапраўднай жаноцкай вадкасцю, мужчына паклаў у лядоўню. Праз суткі гарачыня крыху спала. У мужчыны зноў была выдатная прахалодная Белая жанчына, яшчэ лепшая за папярэднюю.

## Мірскія людажэры

У змрочнае сярэднявечча падчас аблогі ў Мірскім замку тамтэйшаму людажэру давялося забіць і з’есці ўласную

жонку. З’еўшы гарачае сэрца, мірскі канібал паглядзеў на шырока раскрытыя рэбры грудной клеткі і прамармытаў: «Гэх, ма тру-ля-ля... Шкада, жонка мая любая не можа пачаставацца гэтай цёплай свежанінаю...»

## Белая кветка

У вялікім садзе расла Белая кветка. Штораніцы яна ўзмахвала лёгкімі пялёсткамі. Гэта быў знак, каб усе матылькі ўздымаліся ў паветра і сад прачынаўся. Сад ажываў і красаваў да самага вечара. Ажно пакуль Белая кветка не згортвала пялёсткі. Тады ўсё навокал засынала. Аднойчы раніцаю кветка не ўзмахнула пялёсткамі, матылькі не разгарнулі сваіх крылцаў і сад не прачнуўся. Пайшоў дождж. З дрэваў і кустоў паабсыпалася лістота. На абляцелую лістоту пасыпаўся снег. На снег лінуў новы дождж, за якім

прыйшло цяпло. Усе чакалі, што вось-вось Белая кветка разгорнецца і ўзмахне пялёсткамі. Кветка не ўзнялася, не разгарнулася, не ўзмахнула пялёсткамі, і сад, увесь вялікі сад, засох.

## Д'яблаў зуб

Зуб д'ябла жыў у простай пушцы з-пад запалак. Зуб быў падобны да чалавечага, але бездакорна роўны і пярлінава-белы. Каб на Д'яблаў зуб можна было сказаць, што гэта — эталонны малочны чалавечы зуб, дык я так бы і сказаў. Не скажу, хоць зуб быў у самага звычайнага хлопчыка з нашага вялікага сталічнага двара. Бацькі ў хлопчыка былі простымі працаўнікамі, якія раніцаю ехалі на будоўлю, а ўвечары вярталіся дамоў. Простая сям'я, звычайныя людзі, а тут — Д'яблаў зуб! Не абы-які зуб, сапраўдны зуб д'ябла!!! Адкуль ён узяўся ў нашай сталіцы?

Ніадкуль! Так казаў нам хлопчык — уладальнік чароўнай рэчы. Раніцай пушка з бліскучым зубам ляжала ў ягоным школьным заплечніку разам з падручнікамі. Яна ляжала ціхамірна. Гаспадар заплечніка ведаў гісторыю зуба наперад. Прачнуўся і ведаў. Хлопчык нават ведаў, як трэба абыходзіцца з надзвычайнай каштоўнасцю. Трэба задумаць жаданне, дакрануцца ўказальным пальцам да Д'яблавага зуба і сказаць: «Зуб д'ябла, зрабі...» Рабіў! Адразу ж просьба выконвалася. Толькі Д'яблаў зуб працаваў выключна ў злы бок. «Каб ён аслеп на адно вока!» — казаў хлопчык. І чалавек слеп на адно вока. Зуб дзейнічаў, дарэчы, незваротна. Асляпіць мог, а зрок вярнуць — не. Пасадзіць скулу на носе мог, а прыбраць скулу не мог, колькі б яго ні прасілі і ні ўгаворвалі. Зуб лёгка адрываў чалавеку палец, руку, нагу ці галаву... Толькі ў нашым двары ён адарваў руку,

тры пальцы, нагу і шэсць галоў. У школе хлопчык папрасіў зламаць настаўніцы матэматыкі дзве яе тоўстыя нагі, а настаўнік фізкультуры застаўся без языка. Невядома, чым бы скончыліся гульні з Д'яблавым зубам, каб не дырэктар школы. У дырэктара ў сейфе ляжала чарадзейнае пяро з д'яблавага крыла. Пяро было значна мацнейшае за зуб. Яно магло вяртаць назад зробленае зубам. Д'яблава пяро не толькі адрабіла і залатвіла панавыраблянае зубам, яно нават змусіла хлопчыка падараваць пушку з Д'яблавым зубам дырэктару нашай школы. Цяпер у сейфе ёсць і зуб, і пяро... Можа, у тым сейфе ляжыць яшчэ якая рэч ад д'ябла. Ды хто ж нам скажа праўду?

## Сісі і Ноно

Ён забіў яе. Ноно задушыў і згвалціў Сісі. Ён не пагаджаецца з тым, што гвал-

ціў мёртвае цела. Кажа, крычыць... Я не маньяк! Прыдушыў крышку, каб не верашчала моцна, трахнуў ва ўсе дзіркі, а потым задушыў да смерці. Такая гадзіна, як Сісі, не мае права жыць на белым свеце! Так гаворыць Ноно. Ён не хоча залічвацца ў некрафілы. Ён і вінаватым сябе не лічыць. Ноно лічыць вінаватай Сісі... Што яна стала на маёй дарозе і свяціла сытымі сцёгнамі? Яна стала на скрыжаванні ў сваёй кароткай сукенцы, такой закароткай, што была відаць похва. Вецер задзёр сукеначку да самага пупка, а гэтая сучка толькі лыбілася. Не каб сукенку абцягнуць. Не каб похву сваю няголеную прыкрыць. На, глядзі! Мой паўстаў! Жарсць ахапіла мяне, як полымя ахоплівае аблітага бензінам курда. Ты ж бачыў, як самаспальваюцца вогнепаклоннікі курды? Так і я пакрыўся языкамі полымя з галавы да пятаў. У гэтым полымі я аглух і аслеп. У гэтых сле-

паце ды глухаце я і дзейнічаў. За што я магу адказваць, калі быў аслеплены жарсцю? Я гарэў! Яна мяне падпаліла. Няхай яна і адказвае за падпал. Яна і адказала. Не вінаваты я ў тым, ні на кроплю бензіна, ні на пялёстачак полымя. Сісі не змагла запярэчыць. Апошняе, што магла памятаць Сісі, рукі Ноно на сваёй шыі. Сціснулі, як абцугамі, і спынілі жыццё. А да гэтага быў такі цудоўны вечар... У краме «Зара» Сісі набыла падчас распродажу кароценькую сукенку з чорнымі і белымі палосамі. У новай сукенцы схадзіла ў парк. Спадзявалася, што ў парку знойдзецца галантны кавалер, які правядзе яе дамоў. Кавалер знайшоўся, калі Сісі спынілася пад светлафорам і вецер узняў яе кароткую сукенку... Пра рэальную гісторыю тут можна было б і спыніць аповед, але за рэальнай пачалася казачная... Сісі паўстала з мёртвых, яна паўстала толькі на адну гадзіну, каб

прыйсці ў суд і сказаць, што яе кавалер Ноно зусім не вінаваты. Яна сама запаліла ў ім жарсць. Усе прысутныя моўчкі выслухалі Сісі. Ва ўсіх мову заняло. А калі мова вярнулася, Сісі прапала. Суд вырашыў, што была калектыўная галюцынацыя, а галюцынацыю суд у разлік браць не можа, таму Ноно прысудзілі да смяротнага пакарання. Неўзабаве Ноно расстралялі.

## Зялёная свечка

Дзеўка ніяк не магла выйсці замуж. Каму падабалася яна, тыя не падабаліся ёй; а з тых, хто падабаўся ёй, ніводны не ўпадабаў яе. Пайшла дзеўка шукаць дапамогі ў варажбіткі. Тая параіла: трэба ў Купальскую ноч залезці на дах, разаслаць там шырокую посцілку, на ёй пакласці белы абрус, на абрусе паставіць пачастунак для мужчыны, каля пача-

стунка запаліць Зялёную свечку, схавацца і чакаць. На полымя Зялёнай свечкі прыляціць цень суджанага, ён будзе частавацца ды клікаць да сябе суджаную, але варта ператрываць, каб пазней яго насамрэч сустрэць. Дзеўка дачакалася Купальскай ночы, паставіла на даху пачастунак — бутэльку гарэлкі з чарачкай ды талерку з хлебам, цыбуляй і брусочкам сала. На полымя Зялёнай свечкі прыляцеў цень гожага маладзёна. Ён паглядзеў на пачастунак, дастаў з кішэні нож, пакроіў сала, выпіў, закусіў і прапаў. Прыбіраючыся на даху, дзеўка знайшла нож, якім кроілася сала. Хацела была занесці дамоў, але перадумала і схавала чужы нож каля вадасцёкавай трубы. Праз які тыдзень яна сустрэла суджанага на станцыі метро плошча Якуба Коласа. Вярталася з Камароўскага кірмашу з цяжкім, як падняць, кошыкам гародніны. Маладзён прапанаваў дапамогу, яна з вя-

лікай радасцю пагадзілася. Так і пазнаёміліся, так і закахаліся, так справа і да вяселля дайшла. На вяселлі нявеста расказала жаніху пра Зялёную свечку. Ён не паверыў. Яна прывяла яго на дах і дастала са схованкі нож. Ён узяў нож і кінуўся на сваю нявесту, паспрабаваў зарэзаць. Быў ён моцна п'яны і забіць дзеўку не змог; а маладая змагла скінуць з даха маладога мужа, каб ён праляцеў дзевяць паверхаў і забіўся.

## Паэтка і чарната

Чарната агарнула паэтку. Чарната яе агарнула значна раней, чым прыйшла смерць. Паэтка яшчэ хадзіла па вуліцах, выкладала ў ліцэі, яна яшчэ магла нават пасмяяцца, але чарната ўжо агарнула яе цалкам. Паэтка ведала пра чарнату. Яна спадзявалася, што яе зможа выратаваць каханне. Але ўсе палюбоўнікі адхіналіся

ад яе. Як толькі паэтка спрабавала наблізіцца да якога са сваіх каханкаў, той адразу пачынаў уцякаць. Мужчыны ўцякалі ад чарнаты. Паэтка пачала чарнець з пазногцяў. Каб не было відаць метамарфозаў, яна пачала фарбавацца ў чорны колер і насіць чорную бялізну з чорнай вопраткаю. Нарэшце чарната забрала паэтку да сябе. Забрала раптоўна, пасярод дарогі. Яна ішла ў ліцэй, пераходзіла скрыжаванне, упала на роўным месцы і памерла. Хавалі паэтку ў светлай труне і светлай сукенцы. Чарната пакінула пакутніцу ў спакоі, нябожчыца была ўся светлая, нібыта вылепленая з густога святла.

## Чорная сумка

У мінскім метро на станцыі «Кастрычніцкая» сівая жанчына папрасіла маладога чалавека ўзяць яе Чорную сумку

і перанесці праз доўгі пераход на «Купалаўскую». Мужчына ледзь адарваў ад падлогі цяжкую Чорную сумку. Пераход ад «Кастрычніцкай» да «Купалаўскай» падаўся яму бясконцым. Ён разоў з дзесяць абліўся потам і прасох, пакуль вывалак Чорную сумку з пераходa на платформу. Сівая жанчына падзякавала і прапанавала грошы, ён адмовіўся. Яна паабяцала яму дапамагчы ў цяжкую хвіліну. Малады чалавек наважыўся сысці ад старой, але пачуў новую просьбу — данесці Чорную сумку на тое месца, дзе спыніцца першы вагон, што пойдзе ў кірунку да Кунцаўшчыны. Мужчына хацеў быў сказаць, што больш не панясе Чорнай сумкі, але старая паабяцала даць яму за паслугу грошай на аднапакаёвую кватэру. Вядома, малады чалавек не паверыў старой, палічыў яе здзяцінелай, але сумку перавалок. Жанчына адчыніла сумку, дастала з яе сто тысяч еўра і перадала іх стомле-

наму мужчыне. Той узрадаваўся, падзякаваў, схаваў грошы і пабег да выхаду. Яму хацелася як хутчэй паказаць заробак сваёй маладой жонцы, з якой ён збіраў грошы на кватэру. Мужчына выйшаў з метро не на «Кастрычніцкай» і не на «Купалаўскай». Ён выйшаў на «Пушкінскай». Выйшаў не ў Мінску, а ў Маскве. Там ён і здзівіўся, што пранасіў Чорную сумку ажно адзінаццаць дзён. Жонка ўся сплакалася за гэты час. Малады чалавек вярнуўся ў Мінск, чым моцна ўзрадаваў жонку. Яны выбралі і набылі прасторную аднапакаёўку ў новым доме. На рэшту заробленага накуплялася мэбля з розным посудам. Малады чалавек пачаў забывацца пра сівую жанчыну з Чорнай сумкаю, калі здарылася трагедыя. Ён разам з калегамі чакаў ліфт на першым паверсе у Доме друку. Нечакана мужчына пачуў голас сівой гаспадыні Чорнай сумкі. Старая папрасіла не сядаць у пер-

шую кабіну, а пачакаць наступнай. Сам не ведаючы чаму, малады чалавек паслухаўся парады. Кабіна, у якую ён не сеў, узнялася на шосты паверх і абарвалася. Усе, хто быў у той кабіне, загінулі.

## Зеленавокі чорт

Мужчына згубіў працу. Грошы скончыліся. Беспрацоўны вырашыў на апошнія капейкі моцна выпіць, а потым павесіцца. Пайшоў ён у краму па віно. Пад крамаю яго пераняў кульгавы чорт: «Не бяры віно. Ідзі ў бар “Васількі” і папрасі чарку гарэлкі». Мужчына быў у такім стане, што не запярэчыў Зеленавокаму чорту, а пасунуўся ў бар, сеў за стойку і замовіў гарэлкі. Ветлівы бармен наліў і другую чарку і выслухаў гісторыю пра згубленую працу ды намер павесіцца. «Колькі табе, дружа, трэба грошай, каб распачаць новую справу ў новым жыц-

ці?» Мужчына, без усялякіх спадзеваў, назваў дзесяць тысяч еўра. Бармен прапанаваў пазыку пад заклад кватэры. Беспрацоўны нечакана працверазеў і пагадзіўся. Ён узяў пазыку і распачаў новае жыццё. Праз паўгода ён дамовіўся з барменам пра дзень і час вяртання пазыкі. Мужчына нёс грошы. Пад барам яго пераняў Зеленавокі чорт: «Не хадзі ў бар. Там міліцаі, бо бармена нехта зарэзаў. Кажуць, ён пазычаў вялікія грошы пад вялікія працэнты. Праз ненатольную сквапнасць ліхвяр і загінуў».

## Залаты кілаграм

Мужчына доўга не мог заснуць. Пераварочваўся з боку на бок больш за гадзіну. Змучыўся ўшчэнт. Устаў ціха, каб не пабудзіць жонку, апрануўся, выйшаў у двор, крыху пастаяў і вырашыў прагуляцца пад зорным небам. Ён пайшоў

уздоўж ціхай рэчкі, якая плыла праз парк. Яшчэ здалёк мужчына заўважыў пад мастом вогнішча, вакол якога круціліся малыя дзеці. Ён захваляваўся. Ноч, вогнішча, дзеці? Толькі калі зусім блізка падышоў да полымя, дык пабачыў не дзяцей, а карузлікаў. Яны расклалі ў жалезнай бочцы вогнішча і палілі ў ім папяровыя грошы. Карузлікі шпурлялі ў полымя жмені рублёў, шчэрылі крывыя зубы і рагаталі. Побач з бочкай, проста на зямлі валяліся залатыя злiткі. Сквапнасць ахапіла мужчынскую душу. Ён нахіліўся і працягнуў руку да Залатога кілаграма, а ў гэты момант найспрытнейшы з карузлікаў засадзіў яму паміж рэбрамі вялікі нож. Мужчына ўскінуўся і пабег. Абедзвюма рукамі ён трымаўся за тронкі нажа. Так ён і дабег дамоў. Так і заляцеў у цёмную кватэру, дзе крыкам напалохаў жонку. Калі запалілася святло, дык ён і пабачыў, што ніякай раны і ні-

якага нажа ў ягоных грудзях няма. Жонка не паверыла ў расповед пра Залаты кілаграм, але пагадзілася здалёк паглядзець на вогнішча пад мастом. Толькі ніякага вогнішча яна не пабачыла. Пад мостам было зусім цёмна.

## Адна ноч

Жылі-былі каханак з каханкаю. Яны кахаліся, кахаліся, кахаліся і памерлі разам, у адну ноч.

## Белая кладка

Каля станцыі «Зялёнае», што пад Мінскам, цячэ рэчачка. Можна сказаць, і не рэчачка, а ручаіна. Яна і назвы не мае. Не чуў ніколі, каб тую ручаіну неяк называлі. Рэчка, рэчачка, ручаінка ці ручай. На беразе таго ручая, за высокім плотам, стаіць дом Вовы Ваўка. Вялікі дом у прас-

торным дагледжаным садзе. Воўк і распавёў мне пра з'яўленне ў Зялёным Белай кладкі. Ідучы ўздоўж ручая, ён і ўбачыў Белую кладку. Нехта перакінуў цераз ваду тры звязаных вяровачкамі, старана абкораных лазовых дубца. Па такой кладцы нават спрытны кот цераз ручай не перабярэцца. Хіба што лёгенькая пташка магла б па ёй праскакаць з аднаго берага на другі. Толькі пташкам кладка без патрэбы. Воўк падумаў, што такая Белая кладка зусім нікому не спатрэбіцца і забраў роўныя дубцы, каб падвязаць да іх памідоры. Праўда, было яшчэ рана падвязваць памідоры, і звязаныя вяровачкамі дубцы Вова паставіў каля дроваў, у паветцы. Паставіў і забыў пра іх. Напрацаваўшыся ў вялікім садзе, Вова Воўк пасярод дня лёг адпачыць. У сне да яго прышлі душы памерлых і папрасілі вярнуць на месца Белую кладку. Воўк прачнуўся, узгадаў сон і вярнуў

Белую кладку на старое месца. Штодня ён паглядаў на яе здалёк. Праз тры дні і тры ночы Белая кладка знікла. Такую гісторыю я пачуў ад Ваўка на станцыі «Зялёнае», што пад Мінскам.

## Чорны пэндзлік

У майстэрню да мастака Міхася завітаў чорт. Ён папрасіў пэндзлік. Мастак выбраў зусім новы пэндзаль і даў яго хвастатаму чорту. Той пацёр пэндзлік аб руды хвост і вярнуў Міхасю разам са словамі: «З гэтым пэндзлікам станеш выбітным жывапісцам. Твае палотны будуць купляць. Замоваў будзе — малюй не перамалюеш. Толькі ты, Міхась, нікому пра нашую сустрэчу не кажы». Сказаў і прапаў. Пасля сустрэчы з рудахвостым чортам справы ў Міхася пайшлі ўгару. Ягоныя старыя карціны хутка распрадаліся, а замоваў на новыя была

процьма. Толькі сілаў у мастака заставалася ўсё меней і меней. Тут і з’явіўся чарнарогі чорт. Ён па-гаспадарску пахадзіў па майстэрні, сярод сотні іншых пэндзляў знайшоў адзіны чароўны, пацёр яго аб чорны рог і сказаў: «З гэтым Чорным пэндзлікам ты станеш нястомным працаўніком!» Кінуў пэндзлік на падлогу і знік. Міхась пачаў працаваць несупынна. Ён маляваў і пісаў вялікія палотны. Вакол яго ўтварылася цэлая школа па вытворчасці карцін. Усе пачалі думаць, што Міхась не толькі таленавіты і нястомны, а яшчэ і неўміручы. Але гэта было памылковае меркаванне. За высокімі вокнамі Міхасёвай майстэрні адбылася рэвалюцыя. Замест карцін новая дзяржава запатрабавала ў мастакоў іконы. Міхась паспрабаваў чортавым пэндзлікам маляваць абразы, але пераканаўча на іх выглядала толькі чорная бездань. Раззлаваны Міхась зла-

маў чароўны пэндзаль. Зламаў і шпурнуў на падлогу. У тым месцы, куды ўпаў пераламаны напалам Чорны пэндзлік, паўстаў чырванавокі чорт. Ён падышоў да Міхася і кіпцюрыстай лапаю выняў з мастакоўскіх грудзей маленькую душу. Міхась і не супраціўляўся. Абяздушаны мастак яшчэ пахадзіў па зямлі некалькі гадоў, але ні карцін, ні абразоў ён болей не маляваў.

## Блакітная чарка

Паэт піў. Складаў вершы і піў. Ён піў гарэлку, піў адзін і дапіўся да таго, што прыйшоў да паэта чорт. Акуратны, добра апрануты, пад гальштукам. Каб не рогі з хвастом, дык можна было б гэтага чорта прыняць за міністра замежных спраў. Чорт павіншаваў паэта з днём народзінаў і падарыў Блакітную чарку, у якой ніколі не скончаецца гарэлка. З гэтаю

чаркай паэт і спіўся ўшчэнт. Адной ранiцаю паэт так дрыжэў і рукі ў яго так калацiлiся, што Блакітная чарка бразнулася на падлогу і разбілася на драбнюткія аскепкі. Ад такога відовішча паэтава сэрца зайшлося і парвалася. Тут зноў з'явiўся чорт з аблiччам міністра. Ён акуратна выцягнуў з нябожчыка паэтычную душу. Пасадзіў яе ў шкляны празрысты слоік, закруціў на ім покрыўку. Напісаў на ёй фламастарам «Лірыка». Кінуў фламастар каля нябожчыка і праваліўся ў сваё пекла.

## Шэрая кепка

Адкуль такое бярэцца, каб хто сказаў! Але ёсць, ёсць у нашых людзей завядзёнка — класці ў труну да мужчыны ягоную кепку. Ну, навошта? А ён жа яе любіў! А ён жа без кепкі з хаты і не выходзіў! А каму наробіць шкоды падсуну-

тая пад века труны Шэрая кепка? Нарабіла! Пра Шэрую кепку ведалі ўсе, хто жыў непадалёк ад мінскіх Вайсковых могілак. Даўно, калі хавалі на тых могілках кампазітара, аўтара шматлікіх песень і гімнаў, удава засунула ў труну Шэрую кепку. Навюткую, адмыслова прыдбаную дзеля такой урачыстай справы. Калі гарнітур на кампазітары новы, дык і кепка павінна быць новая. Лагічна. Так гэты аўтар гімнаў і паўставаў з труны: у навюткім гарнітуры, у свежай кашулі, у бліскучых чаравіках ды Шэрай кепцы. Паўстане з труны, выйдзе з брамы і стаіць каля плота. Пастаіць, паглядзіць на начны халодны горад і вяртаецца ў цёплую труну. Ніхто яго не чапаў і ён нікому шкоды не рабіў, ажно пакуль адна дзеўка не сарвала з мёртвай галавы Шэрую кепку. Ішла ўздоўж могілак вялікая п’яная кампанія. Выпускнікі адсвяткавалі абарону дыпломных прац

і гулялі па начной сталіцы. П’яная выпускніца і абрабавала нябожчыка з Вайсковых могілак. Абрабавала і стала яшчэ выхваляцца сваім нахабствам. А я такая смелая! А я смерці не баюся! А я буду насіць Шэрую кепку, забраную ў знакамітага нябожчыка! Сказала такое і надзела скрадзеную кепку сабе на галаву. Надзела — і ў тое ж імгненне праваліліся пад зямлю. Больш ніхто ніколі не бачыў ні яе, ні стваральніка гімнаў, ні Шэрай кепкі. Больш іх не бачылі, але ўсе, хто жыве недалёка ад Вайсковых могілак, пра іх чулі, і чулі не адзін раз. Чуць чулі, але кепкі ў труны па-ранейшаму кладуць.

## Блакітныя агні

На даху кінатэатра «Летні» танчылі Блакітныя агні. Кінатэатр стаяў на беразе рэчкі, якраз насупраць старой элек-

трастанцыі. Яна даўно не працавала, і ў яе памяшканнях парабілі спартыўныя залы. Удзень тамака займаліся спартоўцы, а ўночы па пустых памяшканнях гулялі ды весяліліся Блакітныя агні. Яны пачалі перабірацца па мосце і на другі бераг Свіслачы, каб танцаваць на кінатэатры. Блакітныя танцы цягнуліся ад Купалля да самых Дзядоў. Якраз на Дзяды ў дзіцячы парк прызначылі новага дырэктара, тыгрыцу ў крывацелым жаночым абліччы. Яна пабачыла танцы Блакітных агнёў, раз'юшылася і загадала прыборшчыкам залезці на дах ды венікамі змесці агні ў рэчку. Так і было зроблена. А наступнай ноччу кінатэатр згарэў. Роўна гарэў, нібыта свечка.

## Чорнае піяніна

У кнігарні «Б» адбывалася шараговая прэзентацыя пасрэднай кнігі малаціка-

вай — праз ейнае суцэльнае эпігонства — паэткі Людмілы Рысь. Аўтарка чытала куплеты са свежанадрукаванага зборніка «Лес і парк», а прысутныя паціху засыналі. Нават Рысь пагрузілася ў агульную млявасць, што панавала ў цемнаватай і задушлівай кнігарні. «Лес і парк» узяў ды выпаў з бязвольнай рукі паўсоннай Людмілы. Яна нахілілася, каб падабраць кніжку з падлогі, і пабачыла, што ў прысутных паміж ног звісаюць брудна-чырвоныя хвасты. Рысь выпрасталася, ціхім і амаль спакойным галаском прачытала яшчэ адзін катрэн ды выбегла з кнігарні. Яна ляцела праз вечаровы горад у апорны пункт міліцыі, што месцілца на вуліцы Чырвонай. Тым часам, у кнігарні «Б» лютавалі хвастатыя людаеды. За Чорным піяніна яны знайшлі Руслана — пяцігадовага сына Людмілы Рысь. Хлопчык спакойна спаў у мяккім фатэлі. Людажэры зарэзалі і з’елі

тоўстае дзіця бяздарнай паэткі. Калі яна вярнулася, у кнігарні «Б» ужо нікога жывога не было, а на Чорным піяніна ляжаў маленькі чыста-белы чэрап яе сына-пакутніка.

## Чорныя сэрцы

Здарылася тое ў Мінску праз пару гадоў пасля апошняй вайны. На цукерачнай фабрыцы «Камунар», у цэху па вытворчасці ледзянцоў працавалі дзве вядзьмаркі Святланы. Абедзве чарнавокія, з вялікімі грудзямі ды шырокімі дупамі. Мужчынам часам і такія формы падабаюцца. Святланы лёгка знаходзілі аматара важкіх дуп ды напятых цыцак і запрашалі яго пагуляць каля рэчкі. Кавалер апранаўся па-святочнаму і шпацыраваў з дзяўулямі ўсцяж Свіслачы. Там, пад крывымі вербамі, Святланы і завязвалі кавалера ў тугі вузел. Так бед-

нага скруцяць, перакруцяць, заплятуць, пераплятуць ды сціснуць, што ў таго і дух вылятаў. Пайшла па Мінску пагалоска, што нячыстая сіла-моц мужчын у вузлы завязвае. І пачалося сапраўднае паляванне на вычварэнак. Народныя дружыннікі ўпалявалі вядзьмарак, заспелі іх на гарачым. Святланы не патрапілі ні да міліцаяў, ні ў суд, ні ў турму. Дружыннікі зацягнулі вядзьмарак на выспу. Ёсць пасярод Свіслачы невялічкая поўная кустоў выспачка. Туды і зацягнулі вядзьмарак. Тамака іх спалілі. Вядзьмаркі згарэлі хутка. Ад іх засталіся толькі два сэрцы. Такія сэрцы не гараць, бо ў Чорным сэрцы ў вядзьмаркі — суцэльны лёд.

## Зялёная каністра і «stop-бензін»

У Мінску ёсць завулак Круглы, там яшчэ стаяць прыватныя дамкі, а да іх

туляцца розныя хляўкі ды садовыя буданчыкі. Адзін садовы будан нядаўна згарэў, а ў ім загінуў бацька са сваёй дачкою. Ніхто дакладна не мог сказаць, адкуль яны сюды прыехалі. Адны казалі, што гэта цыганы з Кішынёва; другія — што малдаване з Прыднястроўя; трэція згадвалі Адзесу. Карацей, бацька з дачкою прыехалі ў Мінск невядома адкуль і нанялі маленькі будан у Круглым завулку. Як толькі яны там з'явіліся, адразу ж пачаліся крадзяжы. У тамтэйшых жыхароў з вуліцы Беларускай ды Круглага завулка пачало прападаць паліва з бензабакаў. Ну добра, калі машына стаіць на вуліцы, тады яшчэ можна ўявіць злодзея, які злівае бензін. А калі машына стаіць у зачыненым гаражы, стаіць з поўным бензабакам, а потым высвятляецца, што паліва ў баку няма? Было і прапала. Пра знікненне бензіна пачалі гаварыць. Дайшлі

чуткі і да гаспадара буданчыка, дзе пасяліліся людзі з Поўдня. Тады ён і згадаў пра бензінавы дух, які сыходзіць ад будана. Гаспадар пачакаў, пакуль кватарант сыдзе ў краму, ды зайшоў у будан. Пасярод будана стаяла Зялёная каністра. Побач з каністрай сядзела на табурэтцы дэбільная дзяўчынка і трымала ў руках два жоўтая матузкі. Адзін кароткі, а другі доўгі. «Што ты робіш?» — спытаў гаспадар. «Напаўняю каністру. Бачыш, я кладу на рыльца каністры кароткі матузок, кажу «бяжы бензін», і па кароткім матузку бензін бяжыць у каністру. Калі каністра поўная, я кладу на рыльца доўгі матузок, кажу «ўцякай бензін», і бензін уцякае ў другую нашу каністру, што стаіць на заправачнай станцыі ў Пінску. Там мая маці і прадае бензін...» Гаспадар сышоў з будана. Ён абыйшоў суседзяў і распавёў пра ведзьмакоў, што крадуць

паліва. Спачатку людзі хацелі здаць злачынцаў, але вырашылі, што ніхто не паверыць у чарадзейства і ніхто нічога не давядзе ў судзе. Ведзьмакі-чужынцы выйдуць на волю і наробяць тутэйшым людзям яшчэ большай шкоды. Таму ўночы зладзілася акцыя «stop-бензін»: у садзе людзі падпёрлі бервяном дзверы буданчыку, аблілі сцены бензінам і падпалілі. Будан згарэў хутка. На папялішчы знайшлі пакарабачаную каністру, а ніякіх парэшткаў ад людзей там не было. Калі будан гарэў, людзі чулі крыкі. У полымі страшна роў мужчына і пранізліва верашчала дзіця. Іх парэшткаў не знайшлі, але бензін у Круглым завулку і на вуліцы Беларускай больш не прападае.

## Бэзавы кот

Пра Бэзавага ката я пачуў ад маладога мінскага рыбака, а яму распавядалі ста-

рыя дружбакі-калегі. Было тое даўно, калі толькі збудавалі на беразе ціхаплыннай Свіслачы двухпавярховую рэстарацыю «Журавінка». У сутарэннях той рэстарыцыі і жыў легендарны Бэзавы кот. Адзін стары рыбак любіў закінуць вуду каля моста на вуліцы Янкі Купалы. Там — у яміне — хавалася шмат рыбы. Аднойчы закінуў рыбак кручок з чарвяком у яміну і чакае. Бачыць: выходзіць з-за рэстарацыі «Журавінка» вялізарны ярка-бэзавы галавасты кот, накіроўваецца да рыбака, падыходзіць і пераварочвае бідончык з рыбаю. Перакуліў ён бідон, рыбу вывернуў і лапаю па зямлі параскідаў у розныя бакі. Такога нахабства рыбак яшчэ не бачыў. Пачаў ён на ката крычаць, нават вудзільнам паспрабаваў яго сцебануць, толькі не пацэліў, а вудзільна напалам зламаў. На другі дзень рыбак прыйшоў на яму не адзін. Ён прывёў свайго ратвейлера. Хто-хто,

а ратвейлер любога ката возьме — і чорнага, і чырвонага, і бэзавага. У гэтым стары рыбак не меў сумневаў. Але ўсё выйшла якраз наадварот. Бэзавы кот вокамгненна парваў і перагрыз ратвейлеру шырокае горла. Потым перакуліў бідончык з рыбаю і сышоў у сутарэнні, пад рэстарацыю. Больш стары рыбак на яму лавіць не хадзіў і Бэзавага ката не бачыў. Але яго бачылі іншыя рыбакі. Адным Бэзавы кот дазваляў цягаць рыбу з ямы, а другіх праганяў. Так было, ажно пакуль рэстарацыю «Журавінка» гарадскія ўлады не здалі ў арэнду туркам. З туркамі Бэзавы кот не ўжыўся і сышоў. Куды? Хто яго ведае...

## Жоўтая лыжка

На пляцы Перамогі ў вялізнай кватэры з вокнамі на абеліск дажывала свой доўгі век стогадовая жанчына. На яе

спадчыну паклаў вока пляменнік, таксама чалавек немаладога веку. Аднойчы капрызлівая старая папрасіла сквапнага пляменніка пайсці на Камароўскі кірмаш і купіць ёй маленечкага дамавіка, сапраўднага жывога дамавічка, і каб ён абавязкова ўмеў добра танцаваць. Стары паблукаў па Камароўцы, ніякага дамавіка тамака не знайшоў і, каб не вяртацца да старой з пустымі рукамі, набыў ў сівашчокага вясковага дзеда драўляную Жоўтую лыжку. «Які ж гэта дамавік? Ты зусім звар'яцеў, дарагі пляменнічак? Гэта ж звычайная лыжка!» — абурылася старая. «Дамавік проста часова набыў форму Жоўтай лыжкі. Праз некалькі дзён, калі яму ў Вас спадабаецца, ён зноў стане маленечкім ліліпутам, які будзе цешыць Вас, дарагая мая цётачка, сваімі танцамі на шырокім падваконні». Ніхто, акрамя Жоўтай лыжкі, не паверыў пляменніку,

нават ён сам сабе не паверыў. Але ж лыжка яму паверыла, і праз дзень ператварылася яна ў дамавічка, апранутага ў жоўты пінжачок ды жоўтыя брыджы. Ліліпут-дамавічок выдатна танчыў на падваконні, за якім гудзеў маторамі машын пляц Перамогі. Стогадовая старая памерла, седзячы ў крэсле і гледзячы на танец дамавічка. Як толькі цела старой пачало астываць, дамавік зноў перакінуўся ў звычайную драўляную Жоўтую лыжку.

## Залатое кацяня

Сусед мой пайшоў у краму, што на вуліцы Кузьмы Чорнага. Пайшоў па хлеб. Па дарозе пабачыў ён Залатое кацяня. Такое чыстае, такое ласкавае, такое хатняе, што вырашыў мой сусед на зваротным шляху тое кацянятка забраць сабе. Але, калі ён вяртаўся, на вуліцы Чорнага

ўжо не было Залатога кацяняці. Пазней, паважаная варшаўская вядзьмарка сказала майму суседу, што ў вобразе Залатога кацяняці ён бачыў вялікае шчасце, бачыў і не ўзяў.

# Змест


Блакітныя вочы . . . . . . . . . . . . 3
Выгнанне з ложкаў . . . . . . . . 8
Чырвонае сэрца . . . . . . . . . . . 9
Чорная нітка . . . . . . . . . . . . . 10
Кіпень і агонь . . . . . . . . . . . . 11
Голас крыві бацькі свайго . . . . . . . . . . . . . . . . 12
Лузер і Флудзер . . . . . . . . . . . 13
Пяць ложкаў з аргазмам. . . 14
Права дрэва на шпакоўню . . . . . . . . 17
Пагоня . . . . . . . . . . . . . . . . . . 18
Як чорт падміргвае. . . . . . . . 22
Ісціна спадарыні Багушэвіч . . . . . . . . . . . 24
Вера, абізян, п'яніца і чалавечыя рогі . . . . . 25
Снежная баба і марозны дзень . . . . . . . . . . . . . . . . 27
Як і Тык . . . . . . . . . . . . . . . . 29
Рай і свабода . . . . . . . . . . . . 30
Белая нітка і новая сталіца . . . . . . . . . . . . . 30
Залатыя гузікі . . . . . . . . . . . . 32
Дабраначі сем злыдняў . . . 33
Малы Цемрык і цвік-страла . . . . . . . . 33
Калодзежная жонка і Залаты грабянец . . . 35
Жахліва-жоўтая кветка . . . 37
Чорная канапа . . . . . . . . . . . 38
Кілер, Круцік і ліфт . . . . . . . 40
Шэры мост і дробныя феміністкі . . . . . . . . . . . . 41
Яна і ён . . . . . . . . . . . . . . . . . 43
Ружовая качачка . . . . . . . . . . 44
Час і пілаванне. . . . . . . . . . . . 46
Шэрая акадэмія-павук у Шэрай краіне . . . . . 46
Бар, кухар і партманет . . . . 47

Следчы і застрэленая жонка . . . . . . . . . . . . . . 48
Пра марнасць чарговай спробы . . . . . . . . . . . . . . 51
Светлая вайна . . . . . . . . . . . . . . 51
Шэрыя пальчаткі. . . . . . . . . . . . . 53
Чарцяняка, баба і пляшка гарэлкі . . . . . . . . . . . . . . 54
Баба, каток і вартаўнік . . . . 56
Чорная гарэлка . . . . . . . . . . . 58
Блакітнае вока . . . . . . . . . . . 58
Метамарфозы на возеры Віцязь . . . . . . . . . . . . . . 62
Сіні пацук. . . . . . . . . . . . . . . . 63
Сівагаловы гульнятэхнік. . . 64
Бог і чалавек . . . . . . . . . . . . . 65
Душа і цукар . . . . . . . . . . . . . 66
Куніка і Менік . . . . . . . . . . . . 67
Вупыры і веры . . . . . . . . . . . . 68
Шэры генерал і праўда. . . . 68
Таксоўшчык і барсетка . . . . 70
Русалка і Чорт. . . . . . . . . . . . 72
Іншае месца. . . . . . . . . . . . . . 72
Яны і сон . . . . . . . . . . . . . . . . 73
Чорт і Галя . . . . . . . . . . . . . . . 74
Бэзавы дэман і дэмаралізацыя . . . . . 76
Каралева.... . . . . . . . . . . . . . 77
Залатакрылы голуб і шэрагаловая галубка . . . . . . . . . . 77
Сіняя трава. . . . . . . . . . . . . . 78
Маральная падтрымка . . . . . . . . . . 79
Воўчы апетыт . . . . . . . . . . . . 80
Джульет і Рамонка . . . . . . . . 80
Дама і Сабака-табака . . . . . . 80
Бліскучая рыдлёўка . . . . . . . 82
Фіялетавы Валасень і лысая жанчына. . . . . 84
Белая бяроза і лётчыкава каханка. . . . . . . . . . . . 86
Ненажэра і Папяровая лялька . . . . . . . . . . . . . 88
Мой-Мой, Два-Два, Тры-Тры . . . . . . . . . . . . 90
Янусь і падземны пераход . . . . . . . . . . . . 90

Ілля Волас і залатыя рэчы ... 93
Цягнік-забойца і ноч на Купалу ... 95
Анёл і чыпсы ... 96
Жаданні і магчымасці ... 97
Сны выпускніка Акадэміі ... 97
Каханак, вясёлка і пара Q ... 98
Лепшы свет ... 99
Белы білет ... 101
Заспіртаваныя пальцы ... 101
Міхась і злараднасць ... 102
Вядзьмарка і тоўстая вяроўка ... 102
Залатакрылы Ліставей ... 103
Хлопчык і «А-у» ... 105
Настаўнік і сон ... 106
Шэры мех ... 108
Жаўтазубы хлопчык ... 108
Яна і я ... 109
Птушкі і Дамавік ... 109
Ху-у-ух ... 110
Шэры забойца ... 115
Цёмная раніца ... 117
Чорны арэх і Чорнае наканаванне ... 117
Белае вядро ... 120
Мэр і дэтэктыў Вярнідуб ... 121
Святая Ёлка ... 123
Белая вяроўка і брус сала ... 125
Жоўты чамадан і анёл ... 128
Чорна-чорныя пяты ... 130
Цёмны волас ... 131
Шчаслівае жыццё ... 132
Кароткая казка пра звычайных людзей ... 133
Гняздо Чырвоных нутрый ... 133
Чорна-сіні жудаснік і ключ ... 136
Чырвоная шклянка ... 137
Чортавы рогі ... 138
Чырвоныя туфлікі ... 140

Сівы вядзьмак. . . . . . . . . . . . 142
Празрыстая нітка . . . . . . . . 143
Рыжы чартагон і шкляны
посуд. . . . . . . . . . . . . . . . . 145
Доўгі шлях . . . . . . . . . . . . . . 149
Сіняя гушкалка. . . . . . . . . . . 149
Шляхі пераможцаў . . . . . . 150
Рыжая распусніца. . . . . . . . 151
Вада і гарэлка. . . . . . . . . . . . 152
Чорны веер . . . . . . . . . . . . . 153
Зялёны п’яніца. . . . . . . . . . . 154
Шэрая баба . . . . . . . . . . . . . 156
Пытанне і адказ. . . . . . . . . . 159
Белая жанчына . . . . . . . . . . 159
Мірскія людажэры . . . . . . . 160
Белая кветка . . . . . . . . . . . . 161
Д’яблаў зуб. . . . . . . . . . . . . . 162
Сісі і Ноно . . . . . . . . . . . . . . 164
Зялёная свечка. . . . . . . . . . . 167
Паэтка і чарната . . . . . . . . . 169
Чорная сумка . . . . . . . . . . . . 170
Зеленавокі чорт . . . . . . . . . . 173
Залаты кілаграм . . . . . . . . . 174
Адна ноч. . . . . . . . . . . . . . . . . 176
Белая кладка . . . . . . . . . . . . 176
Чорны пэндзлік. . . . . . . . . . . 178
Блакітная чарка. . . . . . . . . . 180
Шэрая кепка . . . . . . . . . . . . . 181
Блакітныя агні . . . . . . . . . . . 183
Чорнае піяніна . . . . . . . . . . 184
Чорныя сэрцы . . . . . . . . . . . 186
Зялёная каністра
і «stop-бензін» . . . . . . 187
Бэзавы кот. . . . . . . . . . . . . . . 190
Жоўтая лыжка . . . . . . . . . . . 192
Залатое кацяня . . . . . . . . . . 194

**Адам Глобус**
(Адамчык Уладзімір Вячаслававіч)

# КАЗКІ ПРА ДАРОСЛЫХ

Рэдактар Уладзімір Арлоў
Тэхнічны рэдактар Ігар Махнач
Карэктар Лідзія Наліўка

Падпісана да друку . .2013 г. Фармат 60×84 1/32.
Папера афсетная. Друк афсетны. Ум. друкарскіх арк. 5,81.
Ум. выд. арк. . Тыраж асобнікаў. Заказ .

Выдавец І. П. Логвінаў
Ліцэнзія № 02330/0494468 ад 08.04.2009 г.
220050, г. Мінск, пр. Незалежнасці, 19-5.
logvinovpress@mail.ru

Друк ТДА «НоваПрынт»
Ліцэнзія № 02330/0552786 ад 25.02.2009 г.
220047, г. Мінск, вул. Геалагічная, 59-4-10.